

# Беларус

БЕЦЕ Ў СЭРЦЫ ІХ — БЕЦЕ МЯЧАМІ! НЕ ДАВАЙЦЕ ЧУЖЫНЦАМІ БЫЦЬ!

Максім Багдановіч (1891-1991)

№ 377 Студзень 1991
Год выд. XL

BIELARUS / Byelorussian Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Prise $ 2.50

## БАГДАНОВІЧАЎСКІ ГОД

**«Сьветлы сьлед будзе вечна жывым»**

1990-ы год быў скарынаўскім: пяцьсот гадоў таму нарадзіўся ў Полацку чалавек, які ўславіў імя Божае сярод народу свайго «наболей с тое причины, иже мя милостивый Бог с того языка на свет пустил» (з прадмовы да Псалтыра). Мінула чатыры стагодзьдзі, і ў 1891 годзе прыйшоў на сьвет юнак, які пацьвердзіў адно з найглыбейшых і найбольш надзённых Скарынавых выказваньняў — аб тым, што так як зьвяры ў пустыні знаюць ямы свае; птушкі, што лётаюць у паветры ведаюць гнёзды свае; рыбы, што плаваюць па вадзе, чуюць віры свае; пчолы і да іх падобныя бароняць вульлі свае, — гэтак-жа й людзі, дзе нарадзіліся і ўзгадаваныя паводле навукі Божае, да тае мясьціны «вялікую ласку маюць».

Вялікая ласка да радзімы свае жыла ў сэрцы Максіма Багдановіча (10.XII.1891 — 25.V.1917). Гэта яна сталася ягоным творчым імпульсам, крыніцай натхненьня і дала яму сэнс жыцьця. Гэта яна, ласка да свае зямлі, зрабіла яго вястуном няўміручасьці Беларусі.

У год Максімавага нараджэньня, са старонак Багушэвічавае «Дудкі Беларускай» узьляцела й трывожна загучэла па беларускіх сэрцах крылатая перасьцярога: «Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі!» Кароткае, але плённае жыцьцё Максіма Багдановіча сталася як-бы адказам Багушэвічу: не, не пакінем і не памрэм! Жыве яшчэ душа ў народзе гэтым, жыве Беларусь!

Ці можна знайсьці лепшы спосаб пражыць жыцьцё, чымся той, які абралі сабе Францішак Скарына, Францішак Багушэвіч і Максім Багдановіч? Гэтае пытаньне сёньня стаіць перад беларускай моладзяй, перад тымі, хто ў Полацку, Жупранах, Менску, па цэлай Беларусі пачынае свой жыцьцёвы шлях: як жыць, на каго і на што арыентавацца ў гэтым часе хаосу, разброду і зьняверанасьці? Каб знайсьці адказ на гэтае пытаньне, ня трэба хадзіць далёка. За морам можна шукаць грошай ці лепшае долі, жыцьцёвую-ж праўду-ж трэба шукаць у сябе ўдома. Народная памяць — крытэрый праўды. Праўда ў тым, **што** застаецца жыць, **што** праласканае памяцяй нашчадкаў, **што,** дзякуючы гэтай памяці, стаецца няўмірушчым, а значыцца і жыцьцятворчым, і жыцьцядайным. Леташнія юбіляры Францішак Скарына і Францішак Багушэвіч (150-я ў годкі нараджэньня) і сёлетні стагоднік Максім Багдановіч — найкрасамоўнейшыя прыклады для сучаснае беларускае моладзі, якая стаіць перад выбарам жыцьцёвага кірунку. Гэты выбар — у служэньні свайму народу, у бязупынных думках пра ягоны дабрабыт, свабоду, культурны рост. Прыглядайцеся да Прыроды. Ці-ж ня гэткі выбар робяць «пчолы і да іх падобныя», што носяць ношу ў свой вулей і барнояць яго?... А няма мудрэйшых



*Максім Багдановіч-гімназіст*

законаў, як законы Прыроды, Божыя законы.

Максім Багдановіч, як і Францішак Скарына, быў уніклівым назіральнікам прыроднага наваколься. Гэтая ягоная здольнасьць бачыць паралелі ў Прыродзе і ў Жыцьці зырка адлюстравалася ў ягонай паэзіі, якая якраз і цэніцца за ейны глыбокі філязофскі зьмест. Падобнай якасьцяй пазначаны і ягоны верш 1909 году, прысьвечаны сябру-аднадумцу Сяргею Палуяну:

*Глянь, як зорка у цемні ляціць,*
*Ўсіх чаруючы сьветлам сваім,*
*Быццам зьмей залаты зіхаціць*
*І стухае у небе глухім.*

*Але ўспомніць яшчэ зорку сьвет,*
*Бо у сэрцах гарыць яе сьлед.*
*Так свабодна, так ярка пражыць —*
*Лепшай долі няма на зямлі.*

*Ўсё кругом на мамэнт асьвяціць*
*І пагаснуць у цёмнай імглі.*

*Ўсё зьнікае, праходзіць як дым,*
*Сьветлы-ж сьлед будзе вечна жывым.*

Хай-жа сёлетні год станецца для ўсіх нас, а найважней для беларускае моладзі, годам далучэньня або працягу багдановічаўскага «сьветлага сьледу»,каб ісьці гэтым сьледам да найсьвятлейшае мэты — свабоды й дабрабыту Беларусі.

### ШУКАЦЬ СУВЯЗЯЎ З ДЭМАКРАТЫЧНЫМІ РУХАМІ

Пасьля таго як савецкія танкі ўчынілі 13-га студзеня масавае забойства цывільнага жыхарства ў Вільні, уплывовая газэта «Уол Стрыт Джорнал» заклікала амэрыканскі ўрад спыніць эканамічную дапамогу Савецкаму Саюзу, урад якога стаў на бок антыдэмакратычнае рэакцыі, а пачаць наладжваць дыпляматычныя сувязі з альтэрнатыўнымі дэмакратычнымі рухамі, асабліва на рэспубліканскім узроўні.

## У ПАДТРЫМАНЬНЕ СВАБОДЫ ЛЕТУВЫ

ТЭЛЕГРАМА ПРЭЗЫДЭНТУ ЗША ДЖ. БУШУ

Галоўная ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня 14-га студзеня выслала ў Белы Дом тэлеграму наступнага зьместу:

Спадар Прэзыдэнт! Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне асуджае грубую сілу, якую Крэмль ужыў супраць дэмакратычна абранага ўраду Летувы і мірных жыхароў Вільні. Мы выказваем спадзяваньне, што ўрад Злучаных Штатаў зробіць усё магчымае для падтрыманьня мірнага працэсу дэмакратызацыі ў Савецкім Саюзе ды абароны правоў народаў на нацыянальную сувэрэннасьць і індывідуальныя свабоды. — Антон Шукелойць, старшыня БАЗА, 166-34 Готык Драйв, Джамэйка, Н.-Ё., 11432.

## САЛІДАРНАСЬЦЬ ЗЬ ЛЕТУВОЙ

Паводля газэты «Нью-Ёрк Таймс» (20.I), «незважаючы на заставы, сотні тысячаў этнічных Расейцаў, Палякоў і Беларусаў (жыхары Летувы — рэд. «Б-са») прыбывалі на працягу тыдня ў Вільню, каб узяць удзел у паховінах дэманстрантаў і спакойна выявіць пратэст супраць панаваньня Масквы».

На наступны дзень па крывавым здушэньні 13 студзеня летувіскае свабоды ў Вільні, гарадзкі Савет Менску прыняў наступную заяву:

**ЗАЯВА**
**Менскага гарадзкога Савету народных дэпутатаў у сувязі з падзеямі ў Літоўскай рэспубліцы.**

Мы, дэпутаты Менскага гарадзкога Савету народных дэпутатаў, рашуча асуджаем выкарыстаньне ўзброеных сілаў СССР у Літоўскай рэспубліцы, што прывяло да праліцьця крыві і ахвяраў сярод мірнага насельніцтва. Мы асуджаем гэтыя дзеяньні, якія былі скіраваныя супраць законна абранага Вярхоўнага Савету і ўраду Літвы. Лічым, што стварэньне Камітэту Народнага Выратаваньня Літоўскай рэспублікі зьяўляецца антыканстытуцыйным актам, які вядзе да разьвязаньня грамадзянскай вайны. Зьвяртаемся да Прэзыдэнта СССР з патрабаваньнем спыніць гвалтоўныя дзеяньні ўзброеных сілаў і даць права літоўскаму народу самому вырашаць свой лёс. Мы глыбока смуткуем па загінулых і выражаем спачуваньне іх родным і блізкім, усяму народу рэспублікі.

Прынята на сэсіі Менгарсавету 14 студзеня 1991 г.

Пасьля наведаньня Вільні 7-асабовай дэлегацыяй Вярхоўнага Савету БССР, пад кіраўніцтвам Ніла Гілевіча, парлямант Беларусі прыняў рэзалюцыю, у якой таксама было асуджанае ўжыцьцё збройнае сілы супраць мірнага жыхарства Вільні.

20 студзеня ў Менску на плошчы Леніна адбылася дэманстрацыя пратэсту супраць гвалту, які займаецца ў Прыбалтыцы ўзброеныя сілы Савецкага Саюзу. У дэманстрацыі ўзяло ўдзел шэсьць тысячаў чалавек. Улады перасьледуюць цяпер ініцыятараў дэманстрацыі.

*(Паводля паведамленьняў Беларускае рэдакцыі радыё «Свабода» і іншых крыніцаў.)*

### *«БЕЛАРУСЬ ДАМАГАЕЦЦА ЗАПРАЎДНАЙ, НЕ ПАПЯРОВАЙ СУВЭРЭННАСЬЦІ»*

Пад гэткім загалоўкам газэта The New York City Tribune (4.I.91) зьмясьціла артыкул Джона Фінка. Аўтар піша, што пры цяперашнім распадзе савецкае імпэрыі шмат хто недабачвае факту, што дзьве рэспублікі, Украіна й Беларусь, карысталіся пэўнай мерай сувэрэннасьці, паколькі яны, пачынаючы ад 1945 году, належалі да ААН. «Цяпер, — піша Фінк, — адна з гэтых рэспублік, Беларусь, хоча абярнуць сваю фасадную незалежнасьць у праўдзівую дзяржаўнасьць».

Амэрыканскі журналіст зьвяртае ўвагу на важныя падзеі 1990 году: абвешчаньне сувэрэннасьці Беларусі і закон аб дзяржаўнасьці беларускае мовы. Ён піша таксама пра дзейнасьць БНФ, заклік да моладзі служыць толькі ў беларускім войску, як гэта прадбачыць дэклярацыя аб сувэрэннасьці.

Аўтар артыкулу, спасылаючыся на англамоўную публікацыю БАЗА «Беларускі Агляд», робіць экскурс у мінуўшчыну Беларусі, часы БНР і Вялікага Княства Літоўскага, выясьняе гістарычную тэрміналёгію, а таксама піша пра цяперашнюю спрэчку з Польшчай за Беласточчыну.

Тэрміналягічная праблема й тэрытарыяльныя пытаньні, піша Дж. Фінк, могуць стацца небясьпечнымі перашкодамі для маладой Беларускай Рэспублікі. Аднак гатовасьць уладаў у Менску да цеснага супрацоўніцтва зь Летувой у нутрана-савецкіх пытаньнях, як і нядаўная сустрэча на высокім узроўні з польскім урадам паказваюць, піша Фінк, што Беларусь дасягнула ўзроўню сьпеласьці, патрэбнага для запраўднай сувэрэннасьці. Трэба толькі спадзявацца, зазначае ён, што Арганізацыя Аб'еднаных Нацыяў і ейныя члены будуць дамагацца, каб Масква прызнала Менску незалежнасьць, якою адзначаюцца дзяржавы, што ўваходзяць у ААН.

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска с перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, прадпісаныя прозьвічам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ДЭМАКРАТЫЯ ПА-ПОЛЬСКУ

Чытаючы амэрыканскія газэты, складваецца ўражаньне, што ў Польшчы адбываецца вялікі працэс дэмакратызацыі. Самі Палякі часта паўтараюць фразу аб «далучэньні да Эўропы». І толькі адны жыхары Рэчыпаспалітай ведаюць, што ўзапраўды адбудоўваецца санацыйная Польшча, якая сваёй палітычнай мадэляй аніяк не падыходзіць да сучаснай Эўропы. Каб усё было на сваім месцы, ажыло і «беларускае пытаньне».

У кастрычніку мінулага году польскі міністар замежных спраў, Кшыштаф Скубішэўскі, падаўся ў Расею, на Украіну і ў Беларусь з мэтай падпісаць там дагаворы з урадамі гэтых рэспублік. Дэклярацыі мелі характар больш сымбалічны, чымся практычны. У прапанове тэксту з польскага боку гаварылася пра непарушальнасьць устаноўленых межаў і, даволі агульна, пра дружбу й супрацоўніцтва.

Дагаворы былі падпісаныя без праблемаў у Кіеве й Маскве, але ў Менску, нечакана, Беларусы, як урад, гэтак і апазыцыя, выказалі свае засьцярогі. Урад БССР адмовіўся пацьвярджаць сталінскі дагавор пра межы, паколькі Беларусь яго не падпісвала, вострa скрытыкаваў палянізацыйную дзейнасьць польскага каталіцкага касьцёлу ў Беларусі і закрануў праблему беларускай меншасьці ў Польшчы. Апазыцыя пацьвердзіла, у прынцыпе, урадавае становішча, падкрэсьліваючы яшчэ дыскрымінацыю Беларусаў у Польшчы і паказваючы на пракладах зьнішчэньня праваслаўных сьвятыняў. У выніку падпісаньне дагавору было адкладзена.

Зараз-жа пачалася вялікая суматоха ў польскай прэсе. Асабліва ўразіла цьверджаньне Зянона Пазьняка, лідэра апазыцыі, пра «этнічную беларускасьць Беласточчыны». Беластоцкія газэты выкарысталі нагоду, каб яшчэ раз апляваць Беларусаў. За няўдачу менскіх перагавораў журналісты абвінавацілі дзеячоў Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня. Беластоцкія Беларусы, маўляў, згаворваюцца з тымі зь Менску і хочуць адлучыць Беласточчыну ад Польшчы. Пасол Беластоцкай Зямлі ў Сойме, Кшыштаф Путра, з парлямэнцкай трыбуны заявіў, што група беларускіх нацыяналістаў вядзе інтрыгі супраць польскай дзяржавы, сустракаючыся патаемна зь менскімі палітыкамі. Путра тут меў на ўвазе сымпозіюм у Белавежы, які выпадкова адбыўся тыдзень да візыту Скубішэўскага ў Менск і на якім былі прадстаўнікі БНФ, БДА, а таксама Беларусы з эміграцыі.

Польскае Міністэрства замежных спраў так усхвалявалася сваёй дыпляматычнай няўдачай, што ў хуткім часе апрацавала спэцыяльны рапарт на тэму беларуска-польскіх суадносін.

У рапарце, між іншага, праводзіцца тэзіс, што польска-беларускія дачыненьні наогул будуць залежаць ад становішча на Беласточчыне. Польскі ўрад баіцца, што нацыянальны рух у Беласточчыне будзе падтрымваны Менскам і апынецца пад камуністычным кантролем. Як выхад, міністэрства бачыць патрэбу разбудовы маладога беларускага, выразна антыкамуністычнага актыву. Беларуская рэпрэзэнтацыя ў Сойме, сьцьвярджае далей рапарт, павінна быць гарантавана законам, каб ня даць магчымасьці камуністам быць абаронцамі Беларусаў.

Інтэрпрэтаваць рапарт можна аднак і на іншы лад: польскі ўрад і надалей ня мае на ўвазе забесьпячэньня нацыянальных патрэбаў Беларусаў, грамадзянаў Польшчы, а толькі бачыць іх як аб'ект палітычнай інтрыгі. Беларусы для яго — гэта надалей грамадзяне горшай катэгорыі. А як выглядае свабода дзейнасьці ў польскай «дэмакратычнай» дзяржаве? Не пасьпелі Беларусы зрабіць першыя крокі ў палітычным жыцьці, як пачала ім наступаць на пяты паліцыя. Не пасьпелі завесьці нейкіх кантактаў з суайчыньнікамі з-за мяжы, а ўжо іх абвінавачваюць у здрадніцтве. Хіба-ж не напамінае гэта таго, што тварылася ў санацыйнай Польшчы?

Не такім шляхам у
Эўропу, панове.

**В. Сельвясюк**

## «ПЕСЬНЯРЫ» У ЗША

Кампанія Поп Артс Продакшэн арганізавала турнэ па гарадох Амэрыкі ведамага ансамблю «Песьняры». У поўным складзе, аднак, ансамбль прыбыць ня здолеў, прыехала спачатку толькі чатыры асобы — трох сьпевакоў (Мулявін, Піня, Дайнэка) і жонка Мулявіна (канфэрансье). Сьпявала трыё пад акампанімэнт з фанаграмы. Выступленьні «Песьняроў» заплянаваныя па невялікіх школьных ці рэстаранных залях у гарадох Нью-Ёрку, Клііўленьдзе, Філядэльфіі, Балтыморы, Сан-Францыска, Лёс-Анджэлесе й Чыкага.

Канцэрт у Кліўленьдзе адбыўся ў пятніцу 18-га ў школьнай залі. Слухачоў было каля 120 асобаў, пераважна іміґранты апошняй хвалі, ды чалавек 20 зь беларускае кліўлендзкае калёніі.

Рэпэртуар у «Песьняроў» пераважна беларускі, ведамы з ранейшых канцэртаў і кружэлак. Канфэранс сп-ня Мулявіна вядзе па-расейску.

Пры ўваходзе ў залю дзьве асобы прадавалі «чарнобыльскія» размаляваныя сарочкі. На сарочках сьпераду напіс «Песьняры», а з-заду (па-расейску): «Чарнобыль — наша боль», і на фоне карты Беларусі з пазначанай на ёй чарнобыльскай зонай нозовы гарадоў: «Гродно — Минск — Могилев — Гомель — Брест». Прыбытак з продажу сарочак, як сказалі арганізатары канцэрту, мае пайсьці на дапамогу ахвярам чарнобыльскае радыяцыі.

Пасьля канцэрту ў Кліўленьдзе да трох сьпевакоў ансамблю далучыўся чацьверты, Місевіч.

## УСХОДНЯЯ ЛЕТУВА

Сучасная Ўсходняя Летува — гэта яе сталіца Вільня і ўвесь Віленскі край. Лічыцца, што яна складаецца з васьмі адміністрацыйных раёнаў: Вільнюскі (Віленскі), Шальчынінкайскі (Салечніцкі), Шырвінцкі, Швянчонскі (Сьвянцянскі), Тракайскі (Троцкі), Ігналінскі, Малецкі і Зарасайскі. Гэты край — са складаным гістарычным мінулым, а таму з даволі зьмешаным складам свайго насельніцтва.

Калі зірнуць на гісторыю гэтага краю ад часу ўзьнікненьня тут сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, дык ён знаходзіўся на тэрыторыі шырокага балцка-славянскага пагранічча, тут менавіта зарадзілася летувіска-беларускае спарадненьне: этнічнае, гістарычнае, а таксама культурнае. Польскія ўплывы ў гэтым краі адносяцца недзе да паловы XVII стагодзьдзя і выявіліся ў выглядзе культурнай і рэлігійнай экспансіі, а на этнічны склад сельскага насельніцтва істотна ня ўплывалі. Аднак яго ная нацыянальная самасьвядомасьць заўсёды была тут слабой і няўстойлівай ды лёгка падпадала пад уплывы вонкавых фактараў.

Таму нельга дужа дзівіцца, што паводле дадзеных перапісу 1989 г. атрымаўся гэткі склад насельніцтва Ўсходняй Летувы:

| *Раён* | *Летувісы %* | *Расейцы %* | *Палякі %* | *Беларусы %* |
|---|---|---|---|---|
| Вільнюскі | 20,8 | 9,1 | 63,5 | 4,7 |
| Шальчынінкайскі | 9,4 | 5,8 | 79,6 | 3,8 |
| Шырвінцкі | 85,5 | 2,3 | 11,1 | 0,6 |
| Швянчонскі | 47,4 | 16,2 | 28,8 | 5,5 |
| Тракайскі | 57,6 | 11,9 | 23,8 | 4,1 |
| Ігналінскі | 39,2 | 39,4 | 7,5 | 7,5 |
| Малецкі | 86,0 | 3,3 | 10,1 | 0,3 |
| Зарасайскі | 69,2 | 21,3 | 7,4 | 1,0 |

У гэтых раёнах 85% Палякаў прызнала сваёй роднай мовай польскую, але ўсё-ж 8% гэтых Палякаў прызнала сваёй мовай беларускую. Затое, паводле дадзеных катэдры славістыкі Віленскага ўнівэрсытэту, 80% статыстычных Палякаў гавораць па-беларуску, ці, як яны самі кажуць, «па-просту», аднак лічаць, што гэты іх беларускі дыялект — гэта польская мова.

Як бачым, асноўнымі польскімі раёнамі зьяўляюцца Віленскі і Салечніцкі. Гэта й выкарыстоўваецца дэструкцыйнымі сіламі, каб выклікаць у насельніцтва незадаволенасьць імкненьнямі Летувы да незалежнасьці. Пасьля абвешчаньня летувіскай мовы дзяржаўнай мовай рэспублікі, а асабліва пасьля ўзнаўленьня 11-га сакавіка 1990 г. незалежнасьці Летувы, гэтыя сілы яшчэ шырэй і глыбей разгарнулі сваю дзейнасьць. Яны накіроўваюць насельніцтва дамагацца польскай аўтаноміі Віленскага краю.

У выніку самаўрады Салечніцкага і Віленскага раёнаў прынялі пастанову, якая патрабуе стварыць ва Ўсходняй Летуве польскі адміністрацыйна-тэрытарыяльны раён, а на другім этапе стварыць буйную польскую адміністрацыйную адзінку, матывуючы тым, што гэта адзіны шлях супраць летувіскай асыміляцыі Палякаў. А тымчасам яны патрабуюць узаконіць расейскую мову, як мову міжнацыянальных зносін, а польскую мову як другую дзяржаўную побач зь летувіскай. Гэта значыць, увесьці трохмоўе, ігнаруючы пры гэтым мову этнічных Беларусаў, каб канчальна асыміляваць іх. Зрэшты, гэты працэс асыміляцыі адразу пасьля вайны, калі на Віленшчыне былі зачыненыя ўсе беларускія школы. Летувіскія Палякі патрабуюць рыхтаваць спэцыялістаў ва ўсіх галінах на польскай мове і дамагаюцца, каб для гэтага былі створаныя польскія вышэйшыя навучальныя ўстановы. Яны ігнаруюць цалкам летувіскія рэспубліканскія законы, прызнаючы толькі законы СССР.

Асноўную ініцыятыву ў стварэньні аўтанамічных настрояў праяўляюць функцыянеры Летувіскай камуністычнай партыі, што стаіць на плятформе КПСС (філіял КПСС у Летуве), якія складаюць абсалютную бальшыню ў Саветах Салечніцкага і Віленскага раёнаў ды займаюць бальшыню кіруючых становішчаў у адміністрацыі і гаспадарчым жыцьці ўсяе Ўсходняе Летувы. Пераважна гэта не прадстаўнікі карэннага насельніцтва, частка зь іх менавіта прыехала з БССР ды ўважае сябе за Палякаў.

Сацыялягічныя дасьледаваньні, праведзеныя ў 1989-1990 гг., паказваюць, што палітычная сьвядомасьць жыхароў гэтых раёнаў адзначаецца інэртнасьцю. Нацыянальная сьвядомасьць фармавалася паводле рэлігіі, прыгэтым каталіцтва атаесамлівалася з польскасьцю. У іхнай ацэнцы каштоўнасьцяў пераважаюць матар'яльныя, эканамічныя матывы, а культурныя й нацыянальныя праяўляюцца дужа слаба. І, нягледзячы на моцную прапаганду, толькі 40% тутэйшых Палякаў падтрымлівае аўтаномію.

Усё-ж аўтанамічныя настроі выклікаюць у Летуве сур'ёзную заклапочанасьць. Польшча дагэтуль не пацьвердзіла, што ня мае тэрытарыяльных прэтэнзіяў да Летувы, не асудзіла акупацыю Віленшчыны ген. Жэлігоўскім. Пакуль Польшча не прызнае Летуву і яе тэрыторыю, існуе небясьпека, што ў працэсе разьвіцьця адносін між Варшавай і Масквой могуць быць ня ўлічаны інтарэсы Летувы.

Гэтую заклапочанасьць падмацоўваюць і выказваньні Прэзыдэнта СССР Гарбачова, які падкрэсьліў, што разам з прызнаньнем незалежнасьці Летувы ад яе будуць адрэзаны Віленшчына і Клайпэдзкі край (зусім гітлераўская мэнтальнасьць!). Паколькі СССР ня мае дастатковых юрыдычных аргумэнтаў дзеля такіх прэтэнзіяў, дык гэта робіцца шляхам распальваньня міжнацыянальных антаганізмаў сярод жыхароў гэтых раёнаў. Такую практыку СССР ужо мае — апошнім прыкладам сталіся падзеі ў Малдове. Гэтую ролю бяруць на сябе шматлікія структуры КПСС, якія яшчэ маюць дагэтуль дужа вялікі ўплыў. КПСС мае значны ўплыў у Саюзе Палякаў Летувы. Іх акцыі пачынаюцца ад патрабаваньня стварэньня аўтанамічнай тэрытарыяльнай адзінкі (Віленскі і Салечніцкі раёны), якая мела-б 130 тыс. жыхароў, у тым ліку каля 93 тыс. Палякаў (г. зн. 72%), што зрэшты складае толькі 36% усіх Палякаў Летувы. А ў найбольш экстрэмісцкіх выказваньнях патрабуецца ўжо стварэньне ў складзе СССР польскай рэспублікі, якая складалася-б зь Віленскага Краю, Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Жаданьні сапраўды маштабныя!

Вяртаючыся да становішча Беларусаў Летувы, дык сярод іх абуджаецца паволі прыспаная дагэтуль самасьвядомасьць.

Беларусы Летувы аб'ядналіся ў Таварыстве Беларускай Культуры і клюбе «Сябрына» ды паставілі перад сабой перадусім асьветніцкія мэты, узнаў-

леньне гістарычнай памяці тутэйшага народу і павышэньне прэстыжнасьці беларускай мовы. Яны ўносяць свой канкрэтны ўклад у ажыцьцяўленьне гэтых мэтаў. Ужо вядуцца сталыя радыё- і тэлеперадачы на беларускай мове. Дзякуючы намаганьням гэтых аб'яднаньняў, спрабуецца арганізаваць факультатывы беларускай мовы й гісторыі ў школах Усходняе Летувы. На гэтым шляху шмат цяжкасьцяў: бракуе пэдагогаў і падручнікаў, якія адпавядалі-б патрабаваньням сёньняшняга часу. Зрэшты такія цяжкасьці і ў самой Беларусі. Але надзея ёсьць. Вялікія спадзяваньні ўскладаюцца на новы альтэрнатыўны падручнік гісторыі, які рыхтуюць праф. А. Грыцкевіч і інш. Беларусам Летувы, як зрэшты і Беларусі, неабходна адрадзіць сваю гістарычную памяць. Адраджэньне Беларусаў ужо пачалося.

**Сьцяпан Дуж-Душэўскі**

# ФОНД АДРАДЖЭНЬНЯ БЕЛАРУСІ

Працэс дэмакратызацыі й нацыянальнага адраджэньня Беларусі, перамагаючы вялізарнейшыя цяжкасьці, ідзе паступова наперад. Адным з дадатных мамэнтаў гэтага працэсу сталіся шырэйшыя й цясьнейшыя кантакты паміж Беларусамі на Бацькаўшчыне і на Захадзе. Гэтая лучнасьць дае адраджэнцам у Беларусі магчымасьць даставаць публікацыі, якіх у Беларусі няма; наведваць заходнія краіны, у тым ліку й Злучаныя Штаты, каб здабываць веды, набываць практыку, наладжваць сувязі; шукаць у замежжы матар'яльнае дапамогі для свае эканамічнае і культурнае дзейнасьці. Дзякуючы перабудовачным працэсам ды ўлютым летась Фонд Адраджэньня Беларусі (ФАБ). Арганізацыя гэтая не набыла яшчэ свае канчальнае формы, але ініцыятыўная група й часовае кіраўніцтва ўжо здолелі сабраць пэўныя фонды і прыйсьці з канкрэтнай дапамогай Беларускаму Адраджэньню.

Каб забясьпечыць сталы прыток грошай у Фонд Адраджэньня Беларусі, было пастаноўлена ўвесьці сталае сяброўства ў ФАБ з гадавымі складкамі 250 даляраў на год. Управа ФАБ будзе надаваць асобам, якія ўнесьлі тысячу даляраў уступных і згадзіліся плаціць гадавыя складкі, званьне Сябры Адраджэньня Беларусі з выдачай насьценнага памяткавага пасьветчаньня,


ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ !

Certificate
Of Recognition

Janka Bielarus

Holds the Honor of being a Member of Byelorussian Renewal Fund
"ADRADZENNIE"
This Honor is bestowed by the following Organizations:
Byelorussian-American Association
Byelorussian Autocephalic Orthodox Church
Byelorussian Congress Committee of America
Association of Byelorussian-American Veterans
Byelorussian-American Youth Organization

1990

Fund Administrators:

Dr. George Kipel
Alexander Silwanowicz
Victor Tur

амэрыканска-савецкаму збліжэньню беларуская эміграцыя мае цяпер магчымасьць працягнуць руку дапамогі сваім суродзічам у іхных найбольш пільных патрэбах. Што гэткая дапамога можа быць канкрэтная і бясцэнная, паказваюць і справа ратунку людзей ад Чарнобыля, і кліўлендзкая Сустрэча, і палітычная канфэрэнцыя ў Беластоку-Белавежы, і Данчыкавы кружэлкі, і падарожжа па Беларусі «Васілька», ды шмат іншых большых і меншых справаў, што сталіся выяўленьнем беларускага адраджэнцкага патэнцыялу і аднačасна стымулам да нацыянальнай кансалідацыі Беларусі.

Роля эміграцыі ў гэтым працэсе унікальная. Дзякуючы заходняму дабрабыту і сваёй працавітасьці, эмігранты сёньня эканамічна даволі моцныя, каб магчы даць Беларускаму Адраджэньню матар'яльную дапамогу, каб гэтае адраджэньне магло хутчэй рухацца наперад. З гэтай думкай і быў заснаваны узор якога падаецца тут. Сябром з гэткімі пасьветчаньнямі будуць рассылацца справаздачы зь дзейнасьці ФАБ. Такія асобы, будуць таксама паўнапраўнымі ўдзельнікамі справаздачна-перавыбарных сходаў ФАБ.

У сваёй бліжэйшай прагараме ўправа ФАБ плянуе правесьці банкет з мэтай папаўненьня касы. На банкеце будуць уручаныя Сябром ФАБ пасьветчаньні, а таксама прадбачыцца, што на ім выступяць госьці зь Беларусі. Паведамленьні будуць своечасова разасланыя.

Калі хто жадае залічыцца ў сябры ФАБ, або даведацца больш інфармацыі, калі ласка, пішэце на ніжэй пададзены адрас або званеце па тэлефоне.

230 Springfield Ave.
Rutherford, NJ 07070
Тэл.: (201) 254-6527; (201) 501-8242; (718) 263-9440.

**А. Сільвановіч, др. Ю. Кіпель, В. Тур, сябры часовае ўправы ФАБ.**

# ДР. В. ТУМАШУ

**Ад Рэдакцыі:** *Ніжэй зьмяшчаем верш Ларысы Геніюш, напісаны паэткай да 60-годзьдзя др. Вітаўта Тумаша, рэдактара ейнага першага зборніка вершаў «Ад родных ніў» (Прага, 1942) і блізкага сябры. Верш гэты нідзе не друкаваўся. Мы яго зьмяшчаем з нагоды 80-годзьдзя др. Вітаўта Тумаша, якое споўнілася 21 сьнежня 1990 году і было адзначанае віншаваньнем у газэце «Беларус» (№ 376), а таксама застольлем у крузе сям'і і прыяцеляў юбіляра ў Нью-Ёрку.*

Вітаю Вас, Сябра, праз тысячы вёрст,
як заўсёды, ад шчырага сэрца.
Часам пазнаеш, адчуеш кагось
і ўжо на забудзеш да сьмерці...

Першыя вершы мае — жураўлі —
дзякуючь Вам за апеку,
дзякуй за тое, што другам былі,
што заўсёды былі чалавекам!

Калі мой жыцьцёвы завузіўся круг
трагедыяй ліхой няўдачы,
я верыла — сьледу шукаціме друг,
застогне, калі не заплача.

Загублены ў далях марозных гусьляр
пад тленьне нямых спадзяваньняў,
я бачыла месяца роднага твар
ў паўночным, распырсканым зьзяньні.

Лягчэйшая ноша адчайных гадзін,
няміласьць суровага лёсу,
калі не забыты, калі не адзін,
калі ёсьць на сьвеце сяброўства!

Нічога, мой Дружа, што не маладосьць,
што не зара, а сутоньне,
што рук маіх сяньня, прамерзлых
наскрозь,
не пакласьці на Вашы далоні.

Гадоў каляровых ня вернеш назад,
ўжо восень жыцьцём нашым правіць, —
красуе няхай залаты лістапад,
як некалі сонечны травень.

І хоць ужо 60 на нашым вяку,
жывем для Радзімы аднойчы,
таму, гэта толькі пачатак шляху,
калі гэты шлях дзейны й творчы.

*Зэльва, 22.X.1970*

*Ваша* ***Ларыса Геніюш***

*З жыцьця ў Нью-Ёрку*

## БЕЛАРУСКАЕ СПАТКАНЬНЕ

Новы міністар замежных справаў БССР сп. Пётр Краўчанка і новы пасол рэспублікі ў ААН сп. Генадзь Бураўкін ўнесьлі і новы падыход у дачыненьні зь беларускай эміграцыяй. Гэта выявілася апошнімі месяцамі пры розных нагодах: у часе скарынаўскіх урачыстасьцяў у Аб'еднаных Нацыях, у выступленьнях П. Краўчанкі перад беларуска-амэрыканскай аўдыторыяй у Квінскім каледжы, у факце дакладу акадэміка А. Мальдзіса, дэлегата на Генэральную Асамблею ААН, у Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва, у прыватных гутарках зь кіраўнікамі беларуска-амэрыканскіх арганізацыяў, у супрацоўніцтве, на якое згадзілася Місія БССР у Нью-Ёрку пры перасыланьні на Беларусь дапамогі чарнобыльцам ды некаторым беларускім культурным установам.

Да ліку гэткіх збліжальных актаў трэба залічыць і прыняцьцё наладжанае прадстаўніцтвам Беларусі ў будынку савецкае місіі ў Глен-Кове для амэрыканскіх суродзічаў. Адбыўся багаты супольны абед, у часе якога з абодвух бакоў узьдымаліся тосты за далейшае ўзаемапаразуменьне й паглыбленьне супрацоўніцтва на дабро Беларусі. Па абедзе ўсе з насалодай выслухалі Данчыкавы песьні, некаторыя прасьпявалі супольна. У ходзе прыязных гутарак нарадзіўся праект пастаноўкі супольнымі сіламі (паводля сцэнарыя сп-ні Вацлавы Вярбоўскай) літаратурна-тэатральнага паказу пра Максіма Багдановіча, што паспрыяе напэўна далейшаму збліжэньню і супрацоўніцтву.

**Я. З.**

## КАНАДЗКАЯ ГАЗЭТА ПРА ГАРОДНЮ

Штадзённік Peterborough Examiner у нумарох за 28, 29, 30 лістапада і 3 сьнежня 1990 г. зьмясьціў вялікі ілюстраваны фатаздымкамі матар'ял свайго карэспандэнта з падарожжа канадзкае спартовае дэлегацыі ў Савецкі Саюз. Дэлегацыя правяла чатыры дні ў Гародні, пра што даволі падрабязна расказваецца ў рэпартажы.

## *АМЭРЫКАНСКІ ЦЭНТАР КАМЭРЦЫЙНАЙ ІНФАРМАЦЫІ Ў МЕНСКУ*

Як падала амэрыканская газэта The Journal of Commerce (11.I.91), у Менску адчыняецца цэнтар, праз які амэрыканскія фірмы здолеюць пашыраць інфармацыю пра свае тавары. Апрача таго, у цэнтры можна будзе дастаць інфармацыю пра магчымасьці прадпрымальніцкай дзейнасьці на Беларусі і ў СССР. Арганізацыяй цэнтру, які завецца Белінвест, займаецца кампанія Madison South International з цэнтрам у Форт-Лёдэрдэйле ў Флярыдзе. Старшыня гэтай кампаніі сп. Марк Д'юк сказаў, што ён выдаткаваў на арганізацыю цэнтру каля чверці мільёну даляраў. У арганізацыі цэнтру бярэ ўдзел таксама ўрад БССР.

## НАЙВЫШЭЙШАЯ ЎЗНАГАРОДА БССР АМЭРЫКАНСКАМУ ПАСТАРУ

У дзень праваслаўных Калядаў у Менску Старшыня Вярхоўнага Савету БССР М. Дземяньцей уручыў амэрыканскаму пастару Полу Мору ганаровую грамату ВС Беларусі за дапамогу дзецям-ахвярам чарнобыльскае радыяцыі.

Дастойны Пол Мор прыбыў у Менск напярэдадні Новага Году і прывёз тры тоны мэдыкамэнтаў. З падобным візытам ён быў ужо ў Менску ў верасьні летась, калі таксама прывёз мэдыкамэнтаў на суму 650 тысячаў даляраў.

Пол Мор — настаяцель епіскапальнай царквы Сьв. Юр'я ў Нью-Ёрку, у Мангатэне (Ўэст 44 вул.). Ён вядзе таксама радыяпраграму «Сытыгоўп». Пабыўшы летась першы раз у Менску, ён так быў уражаны чарнобыльскай бядой Беларусі, што адразу-ж пачаў у сваёй радыяпраграме кампанію збору сродкаў на дапамогу. Сабраўшы адпаведную колькасьць мэдыкамэнтаў, лекарскіх прыладаў і цацак для дзяцей, ён ізноў паехаў у Менск, каб там правесьці разам з хворымі дзецьмі заадно і калядныя сьвяты. Напярэдадні ад'езду, у гутарцы з намі, ён адзначыў вялікі ўклад у справу дапамогі чарнобыльцам міністра замежных справаў БССР Пятра Краўчанкі, сталага прадстаўніка БССР пры ААН Генадзя Бураўкіна ды іншых сяброў беларускае місіі ў ААН.

Пра візыт пастара П. Мора ў Беларусь напісала каліфарнійская газэта The Daily Breeze (Torrance, 22 Dec.90), зьмясьціўшы рэпартаж карэспандэнта Асошыэйтэд Прэс Джорджа Корнэла. Рэпартажом гэтым пакарысталіся таксама газэты San Jose Mercury News (29 Dec.) і Chicago Tribune (4 Jan.). Паводле «Чыкага Трыбюн», справай дапамогі беларускім дзецям займаецца таксама дастойны Пол Маклеры, дырэктар Хрысьціянскага Дзіцячага Фонду ў гор. Рычманьдзе ў штаце Вірджынія. «Палажэньне вельмі пагрозьлівае, — сказаў Маклеры, — гэта першы выпадак такой вялікай ядзернай катастрофы, штосьці зусім новага ў чалавечым дазнаньні. Нам важна сачыць за гэтым няшчасьцем, дакумэнтаваць яго, каб ведаць, як даваць рады, калі штосьці падобнага здарыцца ізноў».

*Фрагмэнты зь дзёньніка*

**Гай Пікарда**

# НА СКАРЫНАЎСКІХ СЬВЯТКАВАНЬНЯХ

*(Заканчэньне, пачатак гл. у № 375)*

*9 верасьня, Полацак.*

За кароткі час прадпрымальны а. Матусевіч арганізаваў беларускую багаслужбу ў залі, дзе партыйцы праводзяць свае пасяджаньні, недалёка ад былой лютаранскай царквы. Партрэт Леніна дыскрэтна завесілі куртынай. Малельнікаў сабралася чалавек 75, сярод іх шмат моладзі. Колькі старэйшых жанчын уселіся на лаўках каля алтара (стол партыйнага сакратара), ікону Божай Маці Вострабрамскай прымацавалі да падсьвечніка. У часе споведзі, калі сьпяваліся па-беларуску кантычкі, некаторыя жанчыны плакалі. Пасьля было абвешчана, што адбудзецца багаслужба па-польску, і асобаў 15 засталося; калі-б была трэйцяя багаслужба па-кітайску, гэтыя добрыя душы напэўна засталіся-б і на яе. Ізноў шмат хто дапытваўся беларускамоўных малітоўнікаў, у тым ліку й старэйшыя «Палякі».

У нядаўна адноўленым сьветлым Спаса-Еўфрасіньнеўскім саборы — сам у сабе архітэктурнае дасягненьне — Мітрапаліт Філарэт зь вялікай урачыстасьцяй адслужыў па-царкоўнаславянску сьв. Літургію. Казань была па-беларуску, але сказаў яе іншы сьвятар, паколькі архіярарах прызнаецца: «Я ня ведаю гэтага дыялекту расейскае мовы». Роўда кіраваў хорам Дзяржаўнага радыё, які выконваў традыцыйныя сьпевы расейскае царкоўнае музыкі, з аднэй беларускай кампазыцыяй — «Хвали, душе моя, Господа» Туранкова.

Вонках сабору на манастырскім дварышчы тоўпяцца малельнікі й проста гледачы. Ад сабору вяла пасыпаная кветкамі й галінкамі сьцежка да старадаўнае Еўфрасіньнеўскае царквы, дзе Мітрапаліт меўся адслужыць малебен пад адкрытым небам. Як звычайна, калі ён вядзе багаслужбу, каля яго шмат прыслужнікаў. На вострыя рэплікі кіданыя па-расейску ў адрас «хуліганчыкаў» зь бел-чырвона-белымі сьцяжкамі, тыя адказвалі зьедліва: «А вы ня можаце гаварыць нармальнай мовай?» Пакуль скончылася Літургія, трыюмфальная паласа бел-чырвона-белых сьцягоў расьцягнулася ад самага сабору аж да іконы Сьв. Еўфрасіньні. Нэрвова пазіралі на яе міліцыянты.

У прыцемках царкоўнага інтэр'еру стаіць чарга малельнікаў, якія чакаюць, каб запаліць сьвечку перад старадаўнай іконай сьвятое — акадэмікі, партыйцы, а таксама дзеці. У бакавым праходзе разьвешаны вялікі нацыянальны сьцяг. Жудасны стан цудоўных фрэскаў з 12-га стагодзьдзя, якімі пакрытыя сьцены, выклікае шок. Але цяпер прынамся робіцца спробы адрабіць вынікі дзесяцігодзьдзяў вандальскае занядбанасьці.

Перад самым ад'ездам з Полацку група людзей у нацыянальным адзеньні запрасіла мяне і іншых пасадзіць памяткавыя дрэвы. Азіраючыся на горад, я напяваю сабе пад рытм рыдлёўкі, кідаючы зямлю:

Так і наш народ нязломны, як
магутны дуб, стаіць,
Пасьля бураў, непагодаў
сьмела ў даль глядзіць.
У яго крыніца сілы — родная зямля,
А над ім надзея сонца, неба сінява...

Я ня буду, бадай, памятаць, каторае дрэўца я пасадзіў або дзе, але няхай яно там расьце з маймі найлепшымі пажаданьнямі для маладых музыколягаў Полацку.

*10 верасьня*

Менск. Па сьнеданьні ў мяне шэраг спатканьняў у гатэлі, асабліва зь гісторыкам музыкі Нэлі Калесьнікавай, якая цікавіцца Куліковічам. Яна ласкава запрасіла мяне наведаць менскую кансэрваторыю. У міжчасе ў мяне спатканьне ў Міністэрстве культуры, каб абмеркаваць справу архіваў Равенскага й Куліковіча ў лёнданскай Бібліятэцы імя Ф. Скарыны, упаасобку працэдуру фотакапіяваньня. Па мяне прыехала аўтамашына, і я правёў гадзіну ў гутарцы з адным з намесьнікаў міністра кампазытарам Л. Мурашкам. Міністар культуры Вайтовіч за колькі дзён будзе зь візытам у Лёндане разам з дырэктарам Менскае філярмоніі, і яны напэўна наведаюць скарынаўскую Бібліятэку, каб папярэдне азнаёміцца з матар'яламі. Ім былі перададзеныя копіі майго артыкулу пра Куліковіча-Шчаглова ў ньюёркскім «Беларусе» разам з экзэмплярамі «Беларускага духоўнага сьпеўніка». Пытаньне пераацэнкі ролі эміграцыйных кампазытараў на аснове толькі іхных музычных заслугаў разглядаецца цяпер і магчымыя дадатныя вынікі гэтага. У Менску арганізуецца на 1991 год другі фэстываль духоўнае музыкі. Я запрапанаваў, каб у рэпэртуары фэстывалю было крыху больш Анцава, Равенскага, Туранкова, Куліковіча і, магчыма, менш Рахманінава і Чэснакова. І ў мяне ствараецца ўражаньне, што так яно й будзе, калі хоры азнаёмяцца з музыкай. Гэта яшчэ толькі пачаткі.

Мы дамовіліся, што па абедзе др. Мурашка завязе мяне ў кансэрваторыю на сустрэчу з праф. А. Багатыровам, якога Савецкі Фонд Культуры ў Маскве папрасіў заняцца маймі роспытамі пра Куліковіча. ...

Мяне прыязна сустрэў самаўпэўнены, з напускным відам чалавек, які адразу-ж заявіў мне пра сваю агіду да дзейнасьці Куліковіча ў часе вайны як «гітлераўскага міністра культуры». Калі-ж я нагадаў яму, што Куліковіч быў дадатна ацэнены савецкімі крытыкамі Астрацовам і Ліўшыцам у часапісе «Советская музыка», ён крышку палагаднеў і прызнаўся, што гарманізацыя ў Куліковіча добрая. Ён быў нявысокае думкі пра ягоную опэру «Кацярына», але прыгадаў «Кантату пра Сталіна». Куліковічавых опэраў ваеннага часу ён ня чуў, але чытаў пра іх у менскай «Беларускай Газэце». Куліковіч, сказаў Багатыроў, быў на сьпіску ў партызанаў і калі-б яго рэпатрыявалі, ён быў-бы адразу расстраляны. Багатыроў з павагай адгукнуўся пра творчасьць Равенскага і сказаў, што калі-б ён вярнуўся, яму даравалі-б. Я нагадаў яму, што Туранкову далі дзесяць гадоў за ягоную «Пагоню»...

Сустрэўшыся ізноў са сваім маладым сябрам Зайкам, я наведаў яшчэ раз Хадыкаў музэй старасьветчыны ды паставіў правесьці спакойна рэшту вечара.

*11 верасьня*

Раніцу давялося правесьці ў польскім консуляце ў Менску, каб разбіліць справу мае транзытнае візы. Гэта дало мне нагоду праехацца менскай падземкай, з бляскам пабудаванай, але запушчанай у сэнсе догляду. Лёнданская падземка, пэўна-ж, горшая, а ньюёркская ці чыкагаўская і ў параўнаньне ня йдуць. Паасобныя станцыі ўражваюць сваёй архітэктурай і агульна адпавядаюць элегантнаму выгляду цэлага гораду. З адноўленым цяпер Старым Местам, нацыянальным саборам у беларускім стылі ды шмат якімі дабраякаснымі крамамі й рэстаранамі ўздоўж бульвараў, Менск можа паспрачацца сваймі магчымасьцямі зь якой хацяя эўрапейскай сталіцай.



*Спаса-Еўфрасіньнеўскі сабор і Еўфрасіньнеўская царква. Фота Надзі Кудасавай.*

Апаўдні ў мяне было назначанае спатканьне з Караліна́й Мацкевіч, здольнай маладой сьпявачкай народных песьняў, якая кіруе хорам энтузіястаў царкоўнае музыкі. Яна таксама рэдагуе новую публікацыю, часапіс «Унія», орган грэка-каталіцкага руху моладзі. Я быў крануты, слухаючы ў выкананьні яе й ейнае сяброўкі гімн «О Божа Спасе наш» на матыў старое брэтонскае песьні «Канты ар Барадоз». Ці гэта першы сьлед у брэтонска-беларускіх сувязях?

Студэнцкіх кафэек у Менску ня шмат, так што мы закончылі наша спатканьне ў «Патсдаме», шыкоўным рэстаране, што насупраць катэдральнага сабору. Рэстаран гэты адзначаецца сваім вытрыманым у германскім стылі інтэр'ерам ды надзіва добрым на цяперашні цяжкі час запасам віна, гарэлкі, піва. Маладыя людзі, зь якімі я спаткаўся, натхнёна адданыя справе беларускае мовы й праўдзівае літургічнае мінуўшчыны іхнае царквы.

Др. Мурашка ласкава завёў мяне ў кансэрваторыю... Там я быў рады сустрэць Нэлі Калесьнікаву, якая згадзілася наладзіць яшчэ адно спатканьне з праф. Багатыровам. Чай, печыва былі пастаўленыя на стол у прыемнай атмасфэры пакою, вокны якога выходзілі на лісьцясты гарод. У куце стаяла піяніна. Маладыя кампазытары, зацікаўленыя ў старадаўнай музыцы, прыходзілі й адыходзілі, затрымваючыся на кубак гарбаты або перадаючы мне падпісаныя копіі сваіх твораў: тры песьні — «Христос зь Дзевы ся раждает», «Новы год бежыт» і «Нас дзеля расьпятаго», аранжыраваныя Вячаславам Кузьняцовам, разам з роспісам на чатыры галасы для хору й солёбасу 130-га псалому ў беларускім перакладзе, «А хто там ідзе» Мурашкі да артыкулы Вольгі Дадземавай аб музычнай культуры ў гарадох Беларусі ў 18-м стагодзьдзі. ...

І гэтак мой кароткі побыт у Беларусі дабягае да канца. Шмат яшчэ застаецца зрабіць, каб замацаваць поступ у аднаўленьні нацыянальных традыцыяў у царкоўнай музыцы. Калі-б было падтрыманьне гэтай справы ў высокіх урадавых сфэрах, працэс гэты праходзіў-бы хутчэй. Але ён і так будзе расьці дзякуючы таму прагнаму радаснаму энтузіязму, зь якім малады сьпявак з праваслаўнага хору ў Полацку выпрасіў у мяне апошні экзэмпляр «Духоўнага сьпеўніка» (прызначаны для хору ў Беластоку). Хлопец выглядаў усяроўна як ён дастаў ад мяне сонца. Зрэшта, я памятаў, што пісаў Францішак Скарына пра любасьць чалавека да свайго роднага краю і пра царкоўную музыку як «духоўны фіміям», які — «старым пацеха й песьня... і дзецям пачатак усякае добрае навукі».

*Лёндан — Менск, 3 кастрычніка 1990 г.*

*Пераклад Янкі Запрудніка*

## ПАПРАЎКА

У выніку карэктарскага недагляду, у матар'яле праф. Джэймса Дынглі («На скарынаўскіх сьвяткаваньнях», «Б-с» № 375) дапушчана памылка: сказ у пятым абзацы трэба чытаць наступна: «Маё абурэньне гэтай 'рэгеоргифікацыяй' з боку царквы, што згаджаецца, як выглядае, выконваць такую-ж работу, як і партыя, дасягнула кульмінацыі, калі я даваў інтэрв'ю ў часе перапынку». Выбачаемся за недагляд.

## РЭЛІГІЯ: ПРАВА НА МІЖНАРОДНЫЯ СУВЯЗІ

У савецкім друку, у тым ліку ў газэце «Зьвязда» (10.Х.90), быў апублікаваны закон СССР «Аб свабодзе веравызнаньня і рэлігійных арганізацыях». У ім, між іншага, сказана: «Рэлігійныя арганізацыі маюць права выпабляць, экспартаваць, імпартаваць і сюджваць прадметы рэлігійнага прызначэньня, рэлігійную літаратуру і іншыя інфармацыйныя матэрыялы рэлігійнага зьместу». (Артыкул 22)

І далей:

«Грамадзяне і рэлігійныя арганізацыі маюць права на групавой або індывідуальнай аснове ўстанаўліваць і падтрымліваць міжнародныя сувязі і прамыя асабістыя кантакты, уключаючы выезды за рубеж для паломніцтва, удзелу ў сходах і іншых рэлігійных мерапрыемствах.

«Рэлігійныя арганізацыі могуць накіроўваць грамадзян за мяжу для навучаньня ў духоўных навучальных установах і прымаць у гэтых мэтах замежных грамадзян». (Артыкул 24)

## «БРАТСКИЙ ВЕСТНИК» ПРА Ф. СКАРЫНУ

Выдаваны ў ЗША месячнік Саюзу Евангельскіх Хрысьціян-Баптыстаў (№ 4, 1990) зьмясьціў артыкул В. Я. Канатуша «Асьветнік і рэфарматар Францыск Скарына (да 500-годзьдзя ад дня нараджэньня)».

## *ВЫСТАЎКА, ПРЫСЬВЕЧАНАЯ СКАРЫНУ*

У галоўным фае Квінскага каледжу ў Нью-Ёрку у месяцы студзені адбылася выстаўка публікацыяў, прысьвечаных першадрукару Беларусі Францішку Скарыну. Арганізаваў выстаўку праф. Томас Бэрд.

**Натальля Вярбоўская**

# КААРДЫНАТЫ ДУШЫ СЯРГЕЯ КАРНІЛОВІЧА

*Няхай надзялялі нас доляй сярмяжнай*
*па шчодра адкроеных лустах, —*
*па ўсьмешцы,*
*што ў вуснах мільгне сарамяжна,*
*згадаю душу Беларуса.*

**Л. Паўлікава**

Душа Беларуса, якая яна? Як расказаць пра яе?... Максім Багдановіч з болем пісаў:

*Народ беларускі, народ!*
*Ты цёмны, сьляпы, быццам крот,*
*Табою ўсягды пагарджалі,*
*цябе ня пушчалі зь ярма*
*І душу тваю абакралі —*
*У ёй нават мовы няма.*

Так, беларускую душу зваявалі гвалтам, заціснулі бясправаем, нішчылі ў турмах; памірала яна ў Курапатах, у парку Чалюскінцаў, у Сібіры. Зь яе сьвятынь рабілі руіны, труцяць чарнобыльскім пылам. Яна ня мела патрэбных умоў для існаваньня, пакідала абжытыя мясьціны і падавалася ў чужыя краі.

Душа Беларуса — гэта Еўфрасіньня Полацкая й Кірыла Тураўскі, Скарына й Багдановіч, Янка Купала й Якуб Колас, Алёйза Пашкевіч, Юры Тарыч, Браніслаў Тарашкевіч і Натальля Арсеньнева. І таму яна не памерла, вытрывала сваёй працавітасьцю, мужнасьцю, розумам, верай, любоўю да сваёй Бацькаўшчыны, свайго народу.

Вось аб адной такой душы я й хацела-б расказаць.

Ён — не кіназорка, не палітычны дзеяч, не вядомы літаратар. Ён — Чалавек зь вялікай літары, з прыгожай душой і дабразычлівым сэрцам. І жыве ён на Полацку.

Ня шукайце ягонага імя сярод жыхароў старажытнага Полацку. Ён жыве на Полацку, што нарадзіўся недалёка ад вялікіх амэрыканскіх вазёраў.

Што гэта — міраж, цуд, мара?

Не, сапраўднасьць.

І збудавалі яго нашы суайчыньнікі-Беларусы. Гэта ў ім 1-га верасьня летась адбылася XIX-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, куды ўпяршыню прыехалі Беларусы з Бацькаўшчыны. Гэта адсюль ідзе ўвесь час дапамога ахвярам чарнобыльскай трагедыі. Гэта тут моляцца за беларускі народ, тут шануюць матчыну мову, песьні, танцы, сьвяты і сваю спадчыну. Але-ж за ўсім гэтым стаяць людзі. Людзі, якія далі жыцьцё гэтаму кавалку, ужо беларускай, зямлі.

— Калі-б мы маглі выбіраць сьвятога, то гэта быў-бы Сяргей Карніловіч, — скажа мне ягоная сяброўка Ева Яраховіч, якая ведае Сяргея больш за сорак гадоў. Беларусы жартуюць: кажуць, што Сяргей ажаніўся з Полакам.

— Ці гэта так? — пытаюся ў яго.

— Так, — кажа, — я заўсёды ў жыцьці быў адсталы, ніколі не пасьпяваў. Дзяўчаты павыходзілі замуж за іншых, тады я ажаніўся з Полацкам, а мець дзьве жонкі — бяда!

Калі знаёмішся зь Сяргеем, першае, на што зьвяртаеш увагу — цёплая і дабразычлівая ўсьмешка, ад якой на сэрцы робіцца лагодна й спакойна. І вочы! Вельмі прыгожыя, блакітныя, у якіх адлюстравалася ўся веліч ягонай сапраўды сьветлай душы. Найбольш ураджвае ягоная цярплівасьць і чуткасьць, справядлівасьць і станоўкасьць, а разам з тым і вялікая далікатнасьць да людзей, зь якімі ён мае дачыненьне.



*Сябры будаўлянага камітэту «Полацка»: (зьлева) Алесь Міраеўскі, а. Міхась Страпко, Астап Яраховіч і Сяргей Карніловіч (старшыня).*

Увесь свой час Сяргей аддае беларускай справе. Праз усё жыцьцё ён нясе любоў да свайго краю, да вытокаў, да каранёў, да таго месца, дзе нарадзіўся — да Беларусі.

На чужыне Сяргей апынуўся падчас вайны. Было яму толькі 13 гадоў. Адкуль захаваў ён такую любоў і пашану да роднай спадчыны? Адкуль у яго такая моц і любоў да беларускай мовы, гісторыі й культуры роднага народу?

У кожнага чалавека ёсьць маці. З матчынай мовай, зь ейнымі думкамі, сьветаглядам дзіцё ўспрыймае сьвет. Потым гэты сьвет робіцца ягоным.

Сяргей памятае маці заўсёды клапатлівай, шчырай, ласкавай і вельмі дабразычлівай. Гэта яна паклала ў ягоную душу пашану і любоў да ўсяго беларускага, гэта яна надзяліла яго сардэчнасьцю і нясьхіснай вераю ў нашу будучыню.

Памятае Сяргей і той дзень, калі маці дала жыцьцё яму другі раз.

Яны з бацькам і суседам паехалі ў Докшыцы, што непадалёк ад Таргуноў — вёскі, дзе нарадзіўся Сяргей. Наказала ім цёця забраць рэчы, бо падчас акупацыі Немцы палілі вёскі, а ўначы партызаны грабілі. Зламыслі

*(Працяг на 7-й б.)*

# «ВАСІЛЁК» НА БЕЛАРУСІ

*(Заканчэньне, пачатак і працяг у №№ 372, 374, 375)*

Паездка на Беларусь была пераломным пунктам у жыцьці шмат каго з моладзі. Вярнуліся яны пасталелыя, больш адчувальныя, з большым разуменьнем праблемаў жыцьця, больш адданыя беларускай справе.

У гэтым апошнім матар'яле мы падамо гутаркі з нашымі падарожнікамі — і маладзейшымі, і сталейшымі — чые выказваньні вельмі цікавыя й шчырыя, якія як-бы падсумоўваюць усё раней сказанае.

**Галіна й Коля Бахар**

**Галіна.** Пераше маё ўражаньне ад Менску было дваякае — людзі вельмі мілыя й цёплыя, але горад пануры, бязтвары — няма самабытнасьці. Праўда, чысты. Пазьней, як пабачылі вёскі й малыя гарады, дык было вельмі прыемна.

**Коля.** А мне спадабаўся стары Менск.

...што наш пабыт там нейк прысьпешыў гэта.

**Ліда Данілюк.** Саме моцнае ўражаньне было спатканьне зь цёткай, мамінай сястрой, якой я ніколі ня бачыла, але так шмат чула пра яе ад мамы. Так, было шмат ўражаньняў, такая маса людзей нас спатыкала, што й ня ведала, куды ісьці, зь кім ісьці — ці зь сям'ёй, ці са сваёй групай. Пасьля ўжо, як усе разьехаліся, я наведала сваякоў, якія жывуць недалёка ад Слоніма, у Дзявяткавічах, дзе мая мама нарадзілася, і ў вёсцы Сурацка, дзе нарадзіўся тата. Там ёсьць царква, дзе служыў сьвятаром мой дзед. Вельмі прыемная, прыгожая маленькая царква, якую цяпер адрамантавалі, пазносілі старыя іконы, якія людзі перахоўвалі ў сваіх хатах праз 40 гадоў. Былі людзі, якія знаі й памяталі маіх бацькоў. Мы разам хадзілі ў царкву і прасьпявалі «Ойча наш», і яны далі іконы для таты. Правяла я са сваімі родзічамі пяць дзён, якія былі ў маім жыцьці адны з самых цікавых. Так шмат ураджаньняў, так усё хутка рабілася, што яшчэ й цяпер я ў сваёй галаве не магу ўсё разабраць. Яшчэ ўсё думаю пра гэтае падарожжа і перажываю яго.



*Сябры «Васілька» наведалі Курапаты й Хатынь, ушанавалі памяць тых, што загінулі ад камуністаў і ад фашыстаў. На здымку: кветкі ад «васількоў» на помніку ў Хатыні. Фота Веры Запруднік.*

**Галіна.** Найбольш мне спадабалася Вільня. Горад гістарычны, цікавы. Людзі зусім іншыя, сьмялейшыя. Сустракаліся там зь беларускай моладзьдзю. Адзін малады чалавек прыехаў з Эстоніі на роверы, каб з намі спаткацца. У Вільні адбыўся канцэрт. Праўда, зь невялікай прыкрасьцю: заля была нанава пафарбаваная, дык мы ўсе пазапэцкваліся, папсавалі крыху касьцюмы. Гледачоў было там ня так і шмат, але яны ўсе нас так добра з энтузіязмам прыймалі. Пасьля канцэрту ўсе Беларусы нас чакалі — сабраліся ўсе разам, гаварылі, сьпявалі і яны нам, і мы ім.

**Коля.** Усюды нас добра спатыкалі, частавалі. Цікавая рэч, аднак: мы ў Амэрыцы больш ямо боршчу, чым яны там. Нам, зразумела, давалі ўсё найлепшае.

**Галіна.** Апошняя ноч на Купальле, недзе каля Менску, была вельмі цікавая. У нас была каўбаса, але ня было хлеба. Нехта з моладзі, ня памятаю хто, пастукаў у першую хату й папрасіў хлеба. Такое ў Амэрыцы немагчыма!

**Коля.** Спаткаліся зь сям'ёй, з траюраднымі братамі й сёстрамі ды зь дзядзькам, зь якім ужо бачыліся раней, у Амэрыцы. Там вялікая наша радня. Як мы ад'яжджалі, яны нам сказалі: «Вы — окей!»

Прыкрае ўражаньне пакінула тое, што людзі там амаль усе гавораць парасейску, але яны вельмі выбачаліся, было ім нават крыху сорамна перад намі. Ня верылі, што мы з Амэрыкі.

**Галіна й Коля** (разам, амаль ва ўнісон). Нашая паездка была вельмі цікавая, але найлепшае было, калі мы пазьней пачулі, што Беларусь абвесьціла сувэрэнітэт — хацелася-б думаць, што наш пабыт там нейк прысьпешыў гэта.

**Надзя Кудасава.** Была на Беларусі чатыры гады таму. Калі я прыехала на Беларусь першы раз, то беларускай мовы амаль ня чула, тым больш ня бачыла беларускіх бел-чырвона-белых сьцягоў. Цяпер — нас спаткалі ў Маскве зь беларускімі сьцягамі, а пазьней у Менску — з караваем, з музыкай с са сьцягамі. Найбольшае ўражаньне зрабіла тое, што гэтак падняўся беларускі нацыянальны рух. Хоць, праўда, яны ўсё яшчэ дзівяцца і нават зайздросьцяць, што мы тут так захавалі мову й сваю культурную спадчыну.

Наведваньне Полацку было для мяне кульмінацыйным мамэнтам. Пра Полацак я марыла даўно, каб пабачыць, пабыць там — бо мая царква ў Амэрыцы носіць імя сьв. Еўфрасіньні Полацкае. Калі мы прыехалі ў Полацак, я папрасіла кіраўніка, каб пабачыць Еўфрасіньнеўскую царкву, але ён сказаў, што гэта ня ў нашым пляне. Аднак мы ўсе яго хутка пераканалі, каб ён нам гэтую прыемнасьць зрабіў. Царква была закрытая, бо яна якраз цяпер рэстаўруецца, але нам адчынілі яе й паказалі. Царква гэтая вельмі высокая, але ў сярэдзіне невялікая, вельмі ўтульная. Страшэнна занапалая — фрэскі зьнішчаныя, іконаў і не пазнаць. Адно мяне пацешыла, што яе адбудоўваюць, што ёсьць спэцыялі-

*(Працяг на 8-й б.)*

# ФЭСТЫВАЛІ ЦАРКОЎНАЙ МУЗЫКІ

## ў Гайнаўцы на Беласточчыне

*Гутарка з арганізатарам сп. Мікалаем Бушкам*

**«Беларус»:** Сёлета ў канцы травеня ў Гайнаўцы на Беласточчыне адбудзецца дзясяты Міжнародны фэстываль царкоўнай музыкі. Калі й як нарадзілася ідэя гэтых фэстываляў?

**М. Бушко:** Ідэя фэстываляў нарадзілася ў 1979 годзе, калі я пачынаў працу ў Гайнаўскім Доме культуры. Недалёка ад Дому культуры «расла» цудоўнай царква — сабор Сьв. Тройцы. Я ведаў, што ў кожным праваслаўным прыходзе — а іх у Польшчы больш за 200 — дзейнічае царкоўны хор. Вось мне й падумалася тады, што добра было-б, каб сабраць некаторыя з гэтых хораў і пачуць усе, што дало-б магчымасьць выбраць найлепшыя. Гэтыя думкі хадзілі мне па галаве больш за год, і толькі ў 1982 годзе, разам з а. Юркам Шурбаком і а. Міхасём Негерэвічам, мы пачалі фэстывалі.

**«Б»:** Хто ў іх бярэ ўдзел?

**М. Б.** Хоры царкоўныя й сьвецкія, прафэсійныя й самадзейныя з Польшчы ды зь іншых краін.

**«Б»:** Якім мэтам фэстывалі служаць і ці гэтыя мэты дасягаюцца?

**М. Б.:** Галоўная мэта — гэта папулярызацыя цудоўнай царкоўнай музыкі, так характэрнай для праваслаўнай царквы, а таксама разьвіцьцё царкоўных хораў і іхнага мастацкага ўзроўню. Пры нагодзе хацелі актывізаваць крыху занядбанае культурнае жыцьцё Беласточчыны. Думаю, што гэтыя мэты дасягаюцца. Гайнаўка сталася сымбалем царкоўнай музыкі.

**«Б»:** Хто займаецца арганізацыяй фэстываляў і адкуль бяруцца грошы на правядзеньне іх?

**М. Б.:** Галоўным арганізатарам дагэтуль быў Гайнаўскі Дом культуры, якім я кірую. Суарганізатарамі сталіся праваслаўны прыход у Гайнаўцы, а таксама ваяводзкі Дом культуры ў Беластоку ды адзьдзел культуры й мастацтва ваяводзкай управы ў Беластоку. Фэстывалі дагэтуль арганізаваліся за грошы дзяржаўныя, галоўна зь бюджэту Гайнаўскага Дому культуры, і за грошы суарганізатараў. Цяпер дзяржаўных грошай не хапае і, каб утрымаць фэстываль, трэба шукаць іншых крыніц.

**«Б»:** Ці стымулююць фэстывалі царкоўнае музычнае жыцьцё Беласточчыны?

**М. Б.:** Абсалютна так. Думаю, што гэта дало штуршок для ўздыму мастацкага ўзроўню ўсіх царкоўных хораў Беласточчыны й Польшчы. Паўстала таксама некалькі хораў новых і, галоўна, маладзёжных. Беластоцкая публіка пачула многа выдатных хораў, якіх, думаю, калі-б не фэстываль, тут ніколі ня было-б. Гайнаўка трывала ўпісалася ў музычную карту краіны.

**«Б»:** Ці будуць пашырацца сувязі з царкоўнымі хорамі ў Беларусі?

**М. Б.:** Абавязкова. Я хацеў-бы, каб ужо ў гэтым годзе ўзялі ўдзел царкоўныя хоры зь Беларусі. Дагэтуль сьпявала толькі некалькі сьвецкіх хораў з БССР.

**«Б»:** Ці ёсьць запісы музыкі фэстываляў і дзе іх можна набыць?

**М. Б.:** Мы маем запісы музыкі амаль з усіх фэстываляў. Іх можна набыць у галоўнага арганізатара, г. зн. у Гайнаўскім Доме культуры. Апрача гэтага, магнітафонную касэту з запісам 9-га фэстывалю (сьпяваюць там хоры выключна беларускія як з Польшчы, так і зь Беларусі, выконваюць, між іншага, гімн «Магутны Божа» Равенскага) можна яшчэ, думаю, купіць у беларускай праваслаўнай царкве ў Саўт-Рывэры.

**«Б»:** Калі які-небудзь хор захоча ўзяць удзел у фэстывалі, што трэба зрабіць?

**М. Б.:** Перш-наперш трэба прыслаць заяву аб гэтым на адрас: Xth International Festival of Orthodox Church Music, 17-200 Hajnówka, Poland, і магнітафонную касэту з запісам хору ды чакаць на адказ. Прысылаць трэба хутка, паколькі юбілейны 10-ты фэстываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы адбудзецца ў маі 1991 году.

# ВЕЧАРЫНА «ТУТЭЙШЫХ»

Хоць мы маем гонар мець свой кодэкс годнасьці, які сягае аж у часы напісаньня Статуту Вялікага Княства Літоўскага, нам прыходзіцца ўсё-ж пытацца ў саміх сябе і ў астатніх: «Хто мы і што за мова нашая? Ці толькі для лаянкі яна?» З такога пытаньня да залі й да сваіх сяброў пачаў вечарыну Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя» Адам Глобус.

На сцэну адзін за адным выходзілі маладыя паэты й барды, чыталі вершы, сьпявалі песьні пра самае надзённае для іх, пра самае балючае. У кожнага свае праблемы, кожны па-свойму бачыць сьвет і дае рэцэпты, як яго зьмяніць. Розныя духовым складам, яны ў адным разам. Гэтае адно — Беларусь. Якая-б ні была, але Радзіма. І ня столькі шкадаваньне гучыць у вершах ды песьнях, ня столькі плач па нястачах, колькі памкненьне запярэчыць імпэрскай казцы аб занядбаным і кінутым Богам Краі. Зрэшты, «тутэйшыя» й сабраліся, каб стварыць новую беларускую літаратуру, якую-б чыталі й чыталі па-беларуску.

У залі й на сцэне — суквецьце таленавітых людзей. Месца ля мікрафону ня пустуе. Адзін за адным праходзяць маладыя таленты: Віктар Шніп, Міхась Скобла, Славамір Адамовіч, Анатоль Сыс, Эдуард Акулін, Людміла Рублеўская, Вольга Куртаніч... Аўтары-выканаўцы песень Кася Камоцкая, Уладзімір Варачаеў, Вольга Акуліч, Ігар Добры... Багатая праграма, добрыя вершы й песьні — пра любоў да Беларусі, параўнаньне Беларусаў і Расейцаў да жанчыны й жанчыны ў ложку, філязофскія роздумы пра сэнс жыцьця й быцьця на гэтай зямлі, асэнсаваньне тых падзей, сьветкамі ці ўдзельнікамі якіх мы зьяўляемся.

Вядучым матывам гэтае вечарыны сталася палітыка, сталася Беларусь на перакрыжаваньнях палітычных сіл як сваіх, так і маскоўскіх. З аднаго боку, зразумелы клопат пра будучыню, ды, здаецца, ня варта запыняцца толькі на аднэй тэме. Нават калі гэта — апазыцыйная палітыка. Бо хоць і «паэзія, літаратура — гэта Бацькаўшчына» (з праграмы «Тутэйшых»), але Бацькаўшчына адна, а палітыка й палітычныя сілы бываюць розныя, яны зьмяняюцца.

Няма ўжо колішніх частых паседжаньняў, куды прыходзілі й тыя, каму проста хацелася паглядзець што гэта за яны, пра каго гэтак шмат шуму ўсюды. Гэта, вядома, ня надта спрыяла справе. Цяпер застаўся касьцяк аднадумцаў і сяброў. Безь вялікіх паседжаньняў, але з новаю працаю над творамі.

Вечарына й паказала, на што здатныя «тутэйшыя», пра чый разыход так гаварылі. І паказала, што сябры Таварыства разам.

А на заканчэньне рок-гурт «Мроя» парадаваў усіх прысутных кампазыцыямі са свайго новага «акустычнага» альбому. І запрасіў усіх на прэзэнтацыю сваёй кружэлкі «28-я зорка» (фірма «Мэлёдыя», 1990 год).

Менск.

**Ул. Пучынскі**

**Янка Запруднік**

# «ТУТЭЙШЫЯ»: ХТО ІХНЫЯ «БАЦЬКІ»?

На X-м зьезьдзе Саюзу пісьменнікаў Беларусі, што адбыўся ў канцы красавіка летась, першы сакратар пісьменьніцкае арганізацыі Васіль Зуёнак закрануў далікатнае і балючае пытаньне: ці не закрэсьлівае маладое пакаленьне літаратурныя набыткі папярэднікаў? Зуёнка, цяпер ужо старшыню СП, трывожыць тое, што маладыя літаратары з асяродзьдзя «Тутэйшых», сьцьвярджаючы ў літаратуры сваё пакаленьне, адкідаюць творчыя дасягненьні «бацькоў». Даючы адбой гэткім пасяганьням на літаратурную спадчыну, імкненьню «сьцьвердзіць сябе праз адмаўленьне», Зуёнак зрабіў спробу сьпісаць гэтую канфрантацыйную зьяву ў катэгорыю адвечнага разыходжаньня паміж бацькамі й дзецьмі — сын, бач, захацеў пабарукацца з бацькам.

### З «Маніхвэсту 'Тутэйшых'»:

19. Я адмаўляю ўсе сучасныя ўгодліва-ўтрыманцкія, т. зв. «нарматыўныя» даведнікі: Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, Руска-беларускі слоўнік, Беларускую граматыку і вытворныя ад іх. Мая норма палягае на адчуваньні гармоніі слова, якога вучуся ў Багушэвіча, Купалы, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага, Караткевіча...

20. Я адмаўляю рэформу 1933 году, вяртаю мяккія знакі і пераднаціскное «я» ў прыназоўніках (ня буду, бяз гэтага).

21. Мой клопат — рэальнае бытаваньне і рэальнае разьвіцьцё мілагучнае беларускае мовы. Таму я не абдзіраю, як ліпку, рускую мову, але шукаю ў дыялектах, гістарычнай і клясычнай літаратуры назваў дзеля сучасных прадметаў, зьяваў. Я раблю гэта адпаведна законам беларускага славаўтварэньня і гармоніі слова».

маншчыкаў, што памагалі партыі весьці народ у твань нацыянальнага нігілізму. І сёньня не асуджаць трэба «Тутэйшых» за іхныя спробы выйсьці на чыстую дарогу творчасьці, а спрыяць ім колькі можна, і дароўваць ім іхнае пэўнае задавацтва, а часамі, можа, і пыхлівасьць.

Таксама ня трэба шкадаваць, што «Тутэйшыя», «успыхнуўшы спантанна», не пэратварыліся «ў масавую маладзёжную літаратурна-мастацкую арганізацыю». Хай лепш будзе рух, чымся арганізацыя. І гэта зусім няпраўда, што «Тутэйшыя», як упікнуў Зуёнак, «замкнуліся ў вузкім 'творчым' коле». «Тутэйшыя» існуюць як плынь, як кірунак, як некарытны падыход да літаратурнай творчасьці, якою яны хочуць займацца ў арганічнай спалучанасьці з грамадзкай дзейнасьцяй, грамадзкай працай, ратаваньнем беларускае душы.

Але гэтая Зуёнкава мэтафара барукаўньня сына з бацькам або не дадуманая да канца, або проста спроба затуманіць праблему. Рэч у тым, што маладыя літаратары з «Тутэйшых» не глядзяць ані на Івана Навуменку, ані на Івана Шамякіна, ані на Максіма Танка, як на сваіх літаратурных бацькоў. «Тутэйшыя» арыентуюцца на творчасьць і жыцьцёвы шлях Янкі Купалы й Якуба Коласа дасталінскага пэрыяду, Багдановіча, Жылкі, Гаруна, Генюш, Арсеньневай, Быкава, Караткевіча...

Сваё існаваньне «Тутэйшыя» засьветчылі ня толькі самвыдавецкімі публікацыямі, літаратурнымі вечарамі і ўдзелам у мерапрыемствах на абарону нацыянальных вартасьцяў, але й выданьнем зборніка «Тутэйшыя», што выйшаў у самым канцы леташняга году ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

У анатацыі да кнігі (260 старонак) сказана, што «аб'ядналіся 'Тутэйшыя' ў 1987 годзе, цяпер іх амаль 60 чалавек, жывуць па ўсёй рэспубліцы, пішуць

> «Бо некаторыя-ж з маладых нашых крытыкаў, верачы ў будучыню 'Тутэйшых', нібы кітайскай сьцяной спрабуюць адзьдзяліць сёньняшнюю творчую моладзь ад яе папярэднікаў — больш блізкіх і больш далёкіх. І, такім чынам, на нашых вачах адбываецца супрацьпастаўленьне, ідзе культывацыя асобнасьці нашчадка ад папярэдніка, узьнясеньне нашчадка як адзіна сапраўднага адраджэнца, вышэйшага ад папярэднікаў сваёй непрыналежнасьцю да часоў культу, хрушчоўшчыны, застою, і нарэшце нават сваёй мастацкасьцю, сваім майстэрствам. Але ці так усё гэта на самой справе?» — *Алег Лойка. Адраджэньне без кансалідацыі?.. «Літаратура і Мастацтва», 22. VI. 90.*

Тут мы маем дачыненьне не з адкіданьнем бацькоў, а з закрэсьліваньнем літаратуры, перапоўненае хлусьнёй і хвальшам. І Зуёнак зусім дарма намагаецца палемізаваць з тутэйшаўцам Сяргеем Дубаўцом, ухапіўшыся за вобраз бацькоў і дзяцей ды паблажліва заначаючы: «Старэйшыя, відаць, вастрэй і больш балюча адчуваюць трагікамічнасьць сытуацыі». Можа тут і трагікамэдыя, урэшце, але не з маладымі, а з тымі старэйшымі аўтарамі, чые творы пазначаныя «партыйнасьцяй літаратуры» дзе хто цяпер, дзякуючы сваёй чыноўніцкай пасадзе або старым сувязям, прабівае свае творы на кніжны рынак. Сам-жа Зуёнак у канцы свайго дакладу («ЛіМ», 4.V) робіць суровае прызнаньне: «Сёньня народ наш — колькі-б мы яго ні заклікалі і ні заклінілі — пакуль што ўсяго толькі ахвяра абманнага шляху, абяцанага лжэпрарокамі як шляху да ўсеагульнага зьліцьця ва ўсеагульнай сытай радасьці. І ў гэтым абмане не апошнюю ролю адыграла і наша літаратура». Вось-жа сучасная літаратурная моладзь, а зь ёю і чытач, адкідаюць не сваіх «бацькоў», а лжэпракокаў і абпаасобку, грамадзка-палітычнай дзейнасьцю займаюцца разам».

Зборнік гэты чакае цяпер на сваю рэкляму і дабразычліва-крытычны агляд яго ў рэспубліканскім друку. Ягоны зьмест пазначаны мастацкім талентам, грамадзянскай дасьпеласьцяй і глыбейшым аналізам нацыянальнае бяды, як гэты мы бачым у дакладзе Зуёнка на пісьменьніцкім зьезьдзе.

Зуёнак наракаў, што не стае паперы на кнігі, часапісы, на сваю пісьменьніцкую газэту. Але дакладчык ня глянуў крытычным вокам на выкарыстоўваньне наяўнае паперы. «Тутэйшыя»-ж выказаліся на гэтую тэму, як і на шмат якія іншыя тэмы, куды сьмялей і праўдзівей. Вось што піша Сяргей Кавалёў у згаданым зборніку «Тутэйшыя», шукаючы прычынаў непапулярнасьці беларускамоўных выданьняў: «Што важней: выданьне лепшых твораў спадчыны, папулярызацыя беларускай гісторыі і культуры ці бяздумная, безаглядная практыка перавыданьняў і перапеправыданьняў, юбілейных шматтомнікаў і выбраных твораў далёка ня лепшых нашых пісьменьнікаў?»

*(Працяг на 8-й б.)*

# КААРДЫНАТЫ ДУШЫ С. КАРНІЛОВІЧА

*(Заканчэньне зь 5-й б.)*

яны адзежу на воз, раптам бачаць — зьявіліся партызаны. Бацька застаўся за хатай, а яго, Сяргея, з суседам прымусілі пайсьці за возам.

За вёскай Таргуны кінулася да іх Сяргеева маці. Як птушка ля свайго гнязда, ратавала яна жыцьцё свайму дзіцяці.

— Я пайду з возам! Вазьмеце мяне, а яго адпусьцеце! Ён-жа малы! Вазьмеце маё жыцьцё, а яго пакіньце!..

Доўга маліла й прасіла яна камандзіра, але дарма — ён груба адпіхнуў яе і пагнаў хлопца далей. Аль-ж ці гэта мальба маці ці, можа, Бог гэтак захацеў — па нейкім часе яго адправілі дамоў, а суседа пагналі далей. Пасьля Сяргей даведаецца, што гэтага чалавека вельмі мучылі, адрэзалі вушы... і забілі. Ня ведае ён і па сёньняшні дзень, што сталася-б зь ім, калі-б ня маці...

Калі Немцы адступалі на Захад, шмат людзей вывозілі ў Нямеччыну. Апынуўся сярод іх і Сяргей. Быў у дзіцячым доме. Калі скончылася вайна, вучыўся ў гімназіі імя Янкі Купалы. Дадому не вярнуўся: ведаў, што застаўся там сталінскі рэжым, што там нельга было ні думаць ні дыхаць вольна. Пасьля ён пераканаецца ў правільнасьці свайго выбару, калі пабачыць жыцьцё сваіх сяброў, якія вярнуліся на радзіму і апынуліся былі там за кратамі. А тут, на чужыне, ён мог гутарыць сваёй мовай, сьвяткаваць беларускія сьвяты, мог рабіць што хацела ягоная душа. Ён быў вольным чалавекам.

Калі прыехаў у Амэрыку, то два тыдні ня мог знайсьці працы і вельмі шкадаваў, што не падаўся ў Канаду аб Аўстралію. Але потым Сяргей пераканаецца, што добра зрабіў, прыехаўшы сюды, бо ні ў адной краіне не адчуваўбы сябе такім шчасьлівым і такім патрэбным людзям.

— Спачатку мы ня мелі свайго прытулку, — успамінае Сяргей, — хадзілі на нямецкія, італьянскія вясельлі. Але, прыглядзеўшыся, як другія будуюць сваё асяродзьдзе, прыйшлі й мы да перакананьня, што нам трэба мець свой беларускі асяродак, каб захаваць мову, традыцыі, песьні, танцы — нашу культуру, нашу душу, захаваць тое, што дае сілы і мэту жыцьця, вылучае з асяродзьдзя і выклікае да сябе цікавасьць і павагу з боку іншых нацыянальнасьцяў. Бо раней Беларусоў тут ня ведалі наогул, нас лічылі за Расейцаў, а мы не маглі з гэтым пагадзіцца. Пачалі змагацца. Вялі прапаганду і ў Кліўленьдзе, і ў Вашынгтоне. Пачалі фармаваць свае беларускія арганізацыі, адкрывалі школы. Выдавалі свае часапісы, газэты. Пабудавалі сваю беларускую царкву Жыровіцкае Божае Маці, у якой заўсёды літургія ідзе на беларускай мове. І ў якой мы кожнае нядзелі молімся за Беларускі народ.

Аднойчы, ехаўшы па сваіх справах, Сяргей заўважыў прыгожыя мясьціны, што нагадалі яму краявіды Беларусі. Была на гэтым месцы конская фэрма. І вырашылі Беларусы адкупіць гэтую зямлю. Назьбіралі крыху грошай, узялі ў банку пазыку, а рэшту далажыў Сяргей. Кастусь Калоша адкупіў тут дом і перабраліся яны зь Сяргеем Карніловічам на сваю зямлю. Запрапанаваў Сяргей назваць гэтае месца Полацак. Так і вырашылі.

Калі я прыехала на Полацак першы раз і пабачыла фундамэнт пад новы будынак, не магла сабе ўявіць, што за год на гэтай разрытай зямлі вырасьце такі сучасны белы прыгажун. І ў гэтым будынку, у ягонай залі Беларусы ўсяго сьвету змаглі падаць адзін аднаму рукі.

З розных прычынаў і ў розныя часы выяжджалі Беларусы з Бацькаўшчыны. Але-ж не пагублялі яны ў сваіх сэрцах любоў і пашану да яе.

Хоць і вельмі прыгожая амэрыканская зямля і дастатак тут і воля,.. алеж, як казаў вялікі Купала: «не пазбыўся шче ўсіх бед — мне сьняцца сны аб Беларусі». Так, не магла суцішыцца ў Сяргея туга па Радзіме. Сьніўся яму родны кут.

У часе «адлігі» напісаў ён ліст да цёткі. І хоць не адчуваў за сабой ніякай віны, але імя сваё зьмяніў. У лісьце пытаўся, як цёця, як ягоная маці, бацька, сёстры. Цётка была жанчына разумная, дагадалася, і аднесла пісьмо да ягонай маці. Так і знайшліся. Цяжка тады было ў Савецкім Саюзе. Хто меў родных за мяжой, уважаўся ледзь ні за здрадніка. Але, дзякуй Богу, заглянула сонца і ў наша ваконца — і ў нашай краіне адбыліся зьмены. І змог Сяргей паехаць на Бацькаўшчыну. Гэта было першае спатканьне больш ак праз 25 гадоў.

Што думаў ён, едучы на Бацькаўшчыну? Як успрыняў яе? Якія пачуцьці апанавалі яго, калі ён прыбыў у Менск?

А пачуцьці былі розныя: і радасьць, і смутак... Радасьць, што ходзіць ён па зямлі сваіх бацькоў, па зямлі, якая дала яму жыцьцё, па зямлі, дзе прайшло ягонае дзяцінства, якая сьнілася яму амаль кожнае начы... Смутак, што не пачуў беларускай мовы — кудыб ні пайшоў, усюды гаварылі па-расейску. Сумна, што сустрэў у гатэлі старэнькую бабулю-эмігрантку, якая сядзела і ўвесь час плакала, таму што яе ня пушчаюць на зямлю, дзе яна нарадзілася — у Вялейку... Сумна, што ў параўнаньні зь іншымі краінамі ў нашай турызм быў вельмі прымітыўны.

Але-ж гэта была ягоная Бацькаўшчына, якую ён любіў і шкадаваў, як хворае дзіцё.

Прайшоўшы крыху па вуліцах сталіцы, пайшоў Сяргей адпачываць. Раптам стук у дзьверы. Прыходзіць чалавек з Глыбокага і кажа, што ягоныя бацькі прыехалі на сустрэчу. Дваццаць пяць гадоў мінула ад таго часу, калі рассталіся! Напэўна нікога ўжо не пазнаць. Але-ж як можна забыцца на вобразы, што навечна запалі і ў душу, і ў памяць?.. Пастарэлі матуля, тата.

Дазволілі ім толькі суткі пабыць разам. А Сяргею хацелася пабачыць вёску, дзе нарадзіўся, дзе прайшло ягонае маленства.

У бюро абслугі Інтурыста яму паведамілі, што забаронена выяжджаць зь Менску. Але так здарылася, што на ягоным шляху сустрэлася добрая беларуская душа, якая дапамагла сустрэцца з родным кутам.

Пазнаёміўся Сяргей у Манрэалі зь Лёняй Яўменавам. Пасябравалі.

— Як-жа ты не пабудзеш там, дзе нарадзіўся, — сказаў Лёня, — дык гэтаж тое самае, што й ня быў ня Беларусі. — І ўсю адказнасьць узяў на сябе. Зранку прыйшла машына і на 24 гадзіны Сяргей паехаў дамоў.

Праўда, нікога там не пазнаў, але-ж калі называлі імя, дык сяго-таго ўспамінаў. Дома ўсё было спакойна, ціха, добра. Сабралася чалавек 40, успамінае Сяргей, зрабілі маленькае прыняцьцё. Некаторыя людзі ўзялі слова і выказалі задаваленьне, што прыехаў наведаць родныя мясьціны. Сказаў ім і Сяргей свае слова: «Захаваў я сваю мову, культуру, ніколі не парываў зь Беларусяй. Жыве ў мяне вера ў нашу Бацькаўшчыну, у тое, што Беларусь назаўсёды здабудзе сабе дзяржаўнасьць, а ейны народ станецца паўнаўладным гаспадаром на роднай зямлі і будзе сам ісьці ўласным шляхам. Толькі, як казаў Францішак Багушэвіч: «Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі!» Спадзяюся, што так яно і будзе».

— Я вельмі шчасьлівы, што маю дачыненьне да Сяргея Карніловіча, — скажа пра яго пляменьнік Слава Карніловіч, — ён перавярнуў усе мае думкі й сьветапогляд, нават жыцьцё. Зь ягонай дапамогай я адчуў сябе сапраўдным Беларусам!

— Сяргей вельмі ахвярны чалавек, цудоўны арганізатар, увесь свой час ён прысьвячае нашай калёніі як ейны грамадзкі кіраўнік, — кажа ягоны сябра Кастусь Калоша.

Калі фірма, у якой ён працаваў пераехала ў іншы штат, Сяргей не пайшоў далей на працу, а ўвесь свой час прысьвяціў грмадзкай дзейнасьці, беларускай справе.

Цікавіцца Сяргей беларускаю прэсай, чытае ўсе часапісы, якія выходзяць у Амэрыцы і асабліва на Бацькаўшчыне.

А колькі дапамогі дасталі ад яго людзі! Хто грошы, хто вопратку. Амаль сто вялікіх пачак Сяргей і Іра Каляда адправілі на Беласточчыну. А колькі радасьці прынёс Сяргей моладзі, якая, прыехаўшы на свой зьезд дастала ад яго падарункі!

Апрача таго, Сяргей цікавіцца гісторыяй, захапляецца Караткевічам і Багдановічам, паважае клясычную музыку. Ёсьць у яго лятуценьне збудаваць на Полацку царкву, адчыніць дом для прыстарэлых. Ягоныя мроі і праблемы разьдзяляюць яго сябры: айцец Міхась Страпко, Кастусь Калоша, Ева й Астап Яраховічы, Валя Яцэвіч, Андрэй і Оля Стрэчані, Аўген Кабяка, Іра Каляда, Алесь Міраеўскі, Янка Каваленка, Янка Ханенка, Аркадзь Сацэвіч і іншыя.

І пакуль б'ецца сэрца Сяргея Карніловіча ды ягоных сяброў — ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!..

Кліўленд, 23.XII.1990 г.

## «ЗЕМЛЯКІ» АНАТОЛЯ КЛЯШЧУКА

У выдавецтве «Беларусь» сёлета выйдзе кніжка здольнага маладога фатографа Анатоля Кляшчука пад заг. «Землякі». Гэта зборнік фотанавэляў. У кнізе кожная фатаграфія або партрэт — лірычны сюжэт ці трагічная падзея — суправаджаецца публіцыстычным тэкстам. Нават пэйзажныя развароты і архітэктурныя ансамблі выступаюць у адзінстве з жывым народным словам. Гэта першы ў Беларусі такога роду фотаальбом — азнаямленьне з Бацькаўшчынай і ейнымі людзьмі.

Цяпер сп. А. Кляшчук знаходзіцца ў Злучаных Штатах, наведвае беларускія асяродкі. Ён спадзяецца, што «Землякі» будуць мець свой працяг.

## ГУРТОК БАС-у Ў ЗША

25 лістапада 1990 г. ў Нью-Брансьвіку заснаваўся амэрыканскі гурток Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў у Польшчы. Старшынём гуртка выбраны Валік Сельвясюк, скарбнікам Бася Кучынская. Такім чынам, зьдзейснілася тое, што многія беластаччане жартам прадказвалі пару год раней. Калі падчас леташняй сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі выявілася, што прысутнічае больш за дзесятак басаўцаў, стала ясна, што жарты скончыліся і пара арганізавацца.

Амэрыканскі гурток ставіць сабе за мэту азнаямленьне тутэйшых Беларусаў зь дзейнасьцю БАС-у на бацькаўшчыне і збор грошай на падтрыманьне гэтай-жа дзейнасьці; на гэтую мэту сябры гуртка ападаткавалі сябе месячна складкай $ 5.00.

**А. Л.**

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

3-га сакавіка сёлета а гадзіне 2.30 папаўдні ў Беларускім грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры адбудзецца акадэмія, прысьвечаная выхаду з друку кніжкі паэта *Міхася Кавыля*

**«Міжгнеўе»**

**ды адзначэньне 75-х угодкаў** ад дня нараджэньня аўтара.

Прысутным паэт уручыць кніжку з аўтографам.

**Управа**
**Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва**

*З жыцьця ў Чыкага*

## ГОСЬЦІ ЗЬ МЕНСКУ

Парафіяне беларускай каталіцкай царквы Хрыста Збаўцы мелі 18 лістапада нагоду прыймаць у сябе групу Беларусаў і Беларусак у веку ад 19 да 35 гадоў, якія прыбылі зь Менску. Дзякуючы сп-ні Марыі Астроўскай з Фундацыі для Міжнароднага Супрацоўніцтва, месяцаў пару таму была наладжаная сувязь з нашай прыхаджанкай сп-няй Тэрэсай Тарасэвіч і было падрыхтаванае прыняцьцё.

Група гасьцей была ачоленая сп. Андрэем Савіныхам, які добра валодае ангельскай мовай і рэпрэзэнтуе арганізацыю «Будучыня». Паводле статуту, мэта гэтай арганізацыі — сувэрэннасьць Беларусі, захаваньне, аднаўленьне й пашырэньне беларускай культуры, увод беларускай мовы ў школьніцтва, рэлігійна-духовае адраджэньне і т.д.

Госьці былі на багаслужбе. Айцец Эдуард Вайцяхоўскі ў сваёй казані вітаў суродзічаў зь Беларусі, пажадаў ім добрага побыту ў Амэрыцы. Пасьля Літургіі адбылося застольле ў царкоўнай залі, завязаліся знаёмствы, людзі абмяняліся падарункамі. Некаторыя мянчане раздавалі творы пісьменьніка Васіля Быкава, альбомы з фатаграфіямі Менску, значкі з выявамі Скарыны, Купалы ды іншыя сувэніры.

Ад імя гаспадароў віталі гасьцей сп-ні Тэрэса Тарасэвіч і Марыя Астроўская. У сваім кароткім прывітальным слове др. Вітаўт Рамук, нагадаўшы пра фізычны й духовы Чарнобыль у Беларусі, выказаў надзею, што адраджэнскі ўзрух, які наглядаецца цяпер у нашай краіне, узбудзіць народ да нацыянальнай сьведамасьці і да працы на дабро Беларусі.

З гасьцей выступілі з прамовамі пангельску сп. Андрэй Савіных і сп. Каралевіч ды сп-ня Лебядоўская па-беларуску. Прагучэлі і свае песьні: госьці прасьпявалі «Касіў Ясь канюшыну», а ўсе разам — «Люблю наш край».

Праўда, ня ўсе наведнікі валодалі беларускай мовай, цьвердзячы, што вучыліся ў расейскамоўных школах. Ня ўсе таксама ведалі, што бард зь Нью-Ёрку Данчык Андрусышын даваў канцэрты ў Менску, што танцавальны ансамбль «Васілёк» выступаў там.

Сп-ні Вера Рамук і Людвіка Беленіс прыгатавалі для наведнікаў сувэніры й гасьцінцы ў канвэртах, а некаторыя чыкагаўцы далі грошы асабіста.

* * *

Сп. Уладзімер Варачаеў зь Менску, сябра БНФ, наведаў 9-га сьнежня царкву Хрыста Збаўцы. Пасьля Літургіі ў царкоўнай залі а. Язэп Сыру і др. Вітаўт Рамук прывіталі гасьця. Адбылося застольле, у часе якога сп. Варачаеў выканаў колькі сваіх песьняў пад уласны акампанімэнт на гітары: «Беларуская мова», «Курапаты», «Надзея на Цябе, Беларусь», «Гэй, брацьця», «Марш БНФ». Удзячныя слухачы ўзнагародзілі барда бурнымі воплескамі.

**Вір**

## «ВАСІЛЁК»

*(Заканчэньне зь 5-й б.)*

сты, якія яе рэстаўруюць. Захавалася адна ікона Еўфрасіньні. Самым большым маім шчасьцем было пакланіцца мошчам сьв. Еўфрасіньні.

Яшчэ адна заўвага: у адрозьненьне ад майго першага пабыту на Беларусі, цяпер чарнобыльская трагедыя больш ведамая цэламу сьвету. Дый яны самі лепш разумеюць ейныя жудасныя вынікі — людзі, дзеці паміраюць.

Заканчваем мы нашыя гутаркі з «васількамі» разважаньнямі Веры Бартуль, якая выказала свае думкі ў асабліва прыгожай форме.

**Вера Бартуль** (каардынатар рыхтаваньня танцавальных касьцюмаў для «Васілька»). Першае ўражаньне надзвычайна эмацыянальнае, поўнае эўфорыі й настальгіі. Трэба пабываць там, каб поўнасьцяй уявіць гэтае пачуцьцё. Аб гэтым мроіла столькі гадоў і нарэшце гэта зьдзейсьнілася на яве.

Спаткалі нас на лётнішчы з караваем, зь беларускімі сьцягамі, — усе, што з намі мелі дачыненьне, гутарылі па-беларуску — стварылася ўражаньне, што мы ў вольнай Беларусі. Аднак усе іншыя на вуліцах як у Менску, гэтак і ў іншых гарадох гутараць выключна на расейскай мове — і тут было вялікае расчараваньне, хоць аб гэтым мы чулі й ведалі. Якая іронія і несправядлівасьць лёсу нашага пакутнага беларускага народу! Краіна, якая мае гэткую багатую гісторыю й культуру, краіна, якая была адна ў ліку заснавальнікаў Аб'еднаных Нацыяў, сяньня ў сваёй сталіцы гутарыць на чужой расейскай мове. Вельмі сумна.

Курапаты й Хатынь зрабілі жудаснае ўражаньне. Адна толькі розьніца, што ў Хатыні пабудавалі цудоўны помнік нашым суродзічам, а ў Курапатах — толькі глыбокія ямы, дзе няведама й да сяньня, хто й колькі загінула там нашых братоў і сёстраў. І паўстае пытаньне: колькі яшчэ нам, Беларусам, прыдзецца мець такіх Курапатаў? Ня менш цяжкія ўражаньні былі і ў клініцы хворых дзетак, пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы — гэта яшчэ адна Кальварыя нашага народу.

Наша надзея на моладзь цяпер — моладзь, якая ўзгадавалася пасьля сталінскага тэрору, — яна ня ведае таго страху, што перажылі бацькі, і пачынае набіраць сьведамасьці, пашаны да ўсяго беларускага, любові да свае мовы. Дай ім Божа ўдачы!

**Гутаркі вяла Зора Кіпель**

## «ТУТЭЙШЫЯ»

*(Заканчэньне з 6-й б.)*

Вось гэтай «бяздумнай, безагляднай практыцы перавыданьняў і перапеправыданьняў» Зуёнак у сваім дакладзе мусіў-бы прысьвяціць куды больш увагі і куды вайстрэй асудзіць гэтую практыку. Бо гэта ня толькі марнаваньне паперы, але й далейшая кампрамітацыя і беларускае літаратуры і нацыянальнае мовы.

Усё сказанае тут ня значыць, што ў дакладзе Васіля Зуёнка ня было слушных думак, добрых рэкамэндацыяў. Але ў ягоным аналізе крызісу, які перажываюць беларуская літаратура і нацыянальная культура, ня было патрэбнае ўніклівасьці й сьмеласьці, якія ўласьцівыя маладым, свабодным ад стрымвальных рэфлексаў і комплексаў.

Зуёнак адно ў самым канцы свайго дакладу сказаў словы, якія, на добры лад, трэба было паставіць у цэнтар разважаньняў аб крызісным стане беларускага красапісьменства. Вось гэтыя словы: «Нашай літаратуры яшчэ прадстаіць пакаяцца. І пакаяньне гэтае — у ачышчэньні праўдай».

На жаль, «ачышчэньня праўдай» у Зуёнкавым дакладзе ня было. Яшчэ зашмат партыйнага духу й самацэнзуры сядзіць у кіраўніцтве пісьменьніцкай арганізацыі.

Падпарадкаванасьцяй партыйнаму начальству, калі не варожаму, дык абыякаваму да патрэбаў нацыянальнае літаратуры, тлумачыцца й тое, што не апублікаваныя дасюль стэнаграмы папярэдніх двух пісьменьніцкіх зьездаў: у стэнаграмах тых, відаць, зашмат «ачышчэньня праўдай» з вуснаў некаторых прамоўцаў, што бралі ўдзел у спрэчках.

Гарачы пра паднявольны стан беларускае літаратуры, трэба сказаць галоўнае: маладыя літаратары сваім бунтам, неканфармізмам і сваім неструктуралізаваным рухам «Тутэйшыя», у якім яны «пішуць паасобна, а грамадзка-палітычнай дзейнасьцю займаюцца разам», маюць шанцы прынесьці максымум карысьці і літаратуры і ўсёй Беларусі, якую яны імкнуцца ўваскрасіць сваім творчым запалам і гарачынёй свайго сэрца. І ня лупцаваць іх трэба надуманымі аргумэнтамі ды няслушнымі абвінавачаньнямі, а спрыяць і і бараніць іх. Гэта й будзе тым «пакаяньнем», якое, паводле Зуёнкавага прызнаньня, «прадстаіць» беларускай літаратуры. Дараваньня старых грахоў трэба шукаць у падтрымваньні маладога пакаленьня літаратараў, нескампраметаванага калябаранцтвам з душыцелямі нацыянальных вартасьцяў.

## ВЫСТАЎКА ЛІТАГРАФІЯЎ У. БАСАЛЫГІ

У 1989 годзе менскі мастак Уладзімер Басалыга падарыў Беларускаму Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку сэрыю літаграфіяў. Працы былі перавезены ў Амэрыку сп-няй Юляй Андрусышынай. У большасьці гэта выяўленьні ў стылізаванай форме старажытнай беларускай архітэктуры. Вядомыя архітэктурныя помнікі, такія як Гародзенская Каложа, Мірскі замак, Сынковіцкая царква і іншыя, паказаныя ў форме эмблемаў. Мастак ня імкнецца да наватарскай формы, канцэнтруючыся на ўдасканаленьні традыцыйнай тэхнікі.

Ад 15 да 22 кастрычніка 1990 году праходзіла выстава літаграфіяў У. Басалыгі ў Ратгерскім штатным унівэрсытэце Нью-Джэрзы. У Студэнцкім Цэнтры ў Нью-Брансьвіку было паказана шэсьць працаў Басалыгі пад загалоўкам «Старая Беларусь у літаграфіях Уладзімера Басалыгі». Амэрыканскія студэнты маглі таксама даведацца асноўныя факты беларускай гісторыі з кароткага тэксту на ангельскай мове. Выставу спансаравала Асацыяцыя Міжнародных Студэнтаў, а арганізатарам і аўтарам тэксту быў беларускі студэнт гісторыі мастацтва В. Сельвясюк.

Уладзімер Басалыга нарадзіўся 1 красавіка 1940 году ў Слуцку. Вучыўся ў Тэатральна-Мастацкім Інстытуце ў Менску, які закончыў у 1967 годзе. Удзельнічае ў выставах ад 1963 году. Займаецца кніжнай і станковай графікай.

**В. С.**

## ЛІДЭР ВОЛЬНАГА ПРАФСАЮЗУ БЕЛАРУСІ Ў ЗША

У студзені месяцы сёлета ў Злучаных Штатах знаходзіцца сп. Міхал Собаль, старшыня аргкамітэту Саюзу рабочых Беларусі, ён-жа адзін з намесьнікаў старшыні ўсесаюзнае канфэдэрацыі вольных прафсаюзаў. У складзе 15-асабовае дэлегацыі сп. Собаль прыбыў у ЗША як госьць Інфармацыйнага Агенцтва ЗША. Рэдакцыя «Беларуса» наладзіла зь ім кантакт.

## СЬВ. † ПАМ. ХВЁДАР ШЫБУТ

**(26.VI.1901 — 18.XII.1990)**



18 сьнежня 1990 году на 89-м годзе жыцьця адыйшоў на вечны спачынак у горадзе Норт-Плат, штат Нэбраска, сьв. пам. Хвёдар Шыбут.

Нарадзіўся ён у Дунайчыцах каля Клецку, дзе скончыў пачатковую школу. Пасьля заканчэньня гімназіі ў Баранавічах і тэхнічнае школы ў Вільні ў 1922 годзе, аж да 1939 году, працаваў як тэхнік-мэліяратар, будаваў дарогі, масты ды каналы для асушэньня і абваднення палёў на роднай Беларусі.

У часе нямецкае акупацыі ён працаваў як настаўнік і школьны інспэктар, змагаўся за беларускія справы, стараючыся, каб беларуская моладзь мела магчымасьць атрымоўваць адукацыю.

Пасьля вайны, апынуўшыся ў Нямеччыне, ён далей стараўся дапамагчы адукацыяй беларускай моладзі. У лягеры ДП Міхэльсдорф, разам зь іншымі дзеячамі, ён заснаваў Беларускую гімназію імя Янкі Купалы, у якой шмат хто атрымаў сярэднюю асьвету.

Увесь час на Бацькаўшчыне і за межамі ён таксама служыў праваслаўнай царкве ды падтрымваў яе, як мог.

У 1949 годзе эміграваў зь сям'ёй у Злучаныя Штаты, пасяліўся спачатку ў штаце Арканзас, а пазьней — у Нью-Джэрзы. У 1950 годзе перабраўся зь сям'ёй у штат Калярада, горад Пуэблё, дзе працаваў на будоўлі, а пасьля даглядаў школы.

У 1985 годзе пераехаў у штат Нэбраска, горад Норфолк, а пасьля — у горад Норт-Плат.

Праз усё сваё жыцьцё ён змагаўся за незалежную Беларусь, шчыра трымаўся праваслаўнай хрысьціянскай веры ды заўсёды дбаў пра Беларусь і Беларусаў.

Так як ён заклікаў беларускую моладзь здабываць вышэйшую асьвету, гэтак і ў сваёй сям'і ён цяжка працаваў, каб даць асьвету сваім дзецям. Ён быў беларускім патрыётам, добрым мужам і бацькам.

Пакінуў у жалобе жонку Ольгу, дачку Любу, сыноў Янку й Юрку ды 10 унукаў і ўнучак. Двое дзяцей, сын Віталі і дочка Ніна, памерлі ў Нямеччыне, дзе й пахаваныя.

Хай яму будзе цёплай амэрыканская зямля, хай сьніць аб вольнай Беларусі.

*Сьпі пад курганам гэрояў,*
*Сьпі, працаўнік і змагар,*
*Несены верна табою,*
*Нізка сьхіліўся штандар!*

Успамяні яго, Божа, у царстве Тваім.

**Сын Янка**

## ЧАРНОБЫЛЬ — «НАЙЦЯЖЭЙШЫ РЭПАРТАЖ»

Карэспандэнты аднае з набольш папулярных амэрыканскіх праграмаў тэлекампаніі Сы-Бі-Эс, «60 хвілінаў», падзяліліся кожны пра найцяжэйшы рэпартаж, які ім калі-небудзь давялося рабіць. Аднаму з шасьцёх карэспандэнтаў, Стыву Крофту, найцяжэй прыйшлося з рэпартажам пра вынікі чарнобыльскай катастрофы ў Беларусі. (TV Guide N. 3, 19 Jan. 91)

## СЬВ. † ПАМ. ПЁТРА МІРАНОВІЧ

**(21.IX.1902 — 20.XII.1990)**



20 сьнежня мінулага году памёр Пётра Міртановіч, выдатны беларускі мастак.

Мірановіч нарадзіўся 21 верасьня 1902 г. на Дзьвіншчыне ў сялянскай сям'і. Пасьля сканчэньня гімназіі, Мірановіч паступіў у Рыжскую Акадэмію Мастацтваў, дзе вучыўся ў акадэміка Кугі й прафэсара Эліяса. У часе сваіх студэнцкіх гадоў Мірановіч ня толькі атрымаў салідную акадэмічную адукацыю, але таксама выпрацаваў напрамак мастацкай дзейнасьці на цэлае жыцьцё. Галоўнай тэмай ягоных прац сталіся беларускі пэйзаж і вобразы сялянскага жыцьця. Стыль Мірановіча можна назваць рэалістычным зь вялікім уплывам імпрэсіяністычнай палеты.

Мірановіч быў актыўным удзельнікам беларускага руху ў Латвіі. Актыўна арганізаваў беларускае школьніцтва і сам настаўнічаў некалькі гадоў у беларускай школе ў Рызе. У часе вайны працаваў у Адукацыйным Адздзеле як інспэктар беларускіх школ.

У 1944 годзе Мірановіч пераяжджае ў Вену, забіраючы з сабой некалькі малюнкаў. Большасьць ягоных працаў аднак, у тым ліку і ўзнагароджанайя рэктарам Акадэміі кампазыцыя «У сялянскай хаце», застаюцца ў рыжскай кватэры.

У Вене мастак зь сям'ёй правёў тры гады, наведваючы ў гэтым часе Венскую Акадэмію Мастацтваў. У 1947 годзе Мірановічы пераяжджаюць у Нямеччыну, а тры гады пазьней — у Амэрыку. Пасяліліся ў Брукліне, дзе мастак пражыў да канца жыцьця.

Мірановіч быў мастаком беларускай эміграцыі ў поўным значэньні гэтага слова. Маляваў ён шмат партрэтаў, але ў асноўным галоўнай тэмай ягонай творчасьці застаўся беларускі пэйзаж. У 1952 годзе Ул. Сядура так пісаў пра карціны Мірановіча ў «Запісах»: «Яны абуджаюць у кажным з нас салодкія ўспаміны. Стоячы перад імі, мы нібы зноў пераносімся на родныя палі й сенажаці, лясы й вазёры. Мы бачым зноў, як жывуць і працуюць нашыя людзі, якія засяляюць нашыя вёскі й мястэчкі і перахоўваюць нашыя нацыянальныя асаблівасьці».

У 1962 годзе Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва арганізаваў вялікую выставу прац Мірановіча. Сёньня ягоныя карціны можна знайсьці амаль у кожнай хаце ньюёркскіх Беларусаў. Тэмы малюнкаў амаль такія-ж, як тых маляваных у трыццатых гадох на Дзьвіншчыне. Адно што заўважаецца, параўноваючы іх, гэта быццам-бы меншая сьвежасьць колеру і формы ды болшая настальгія ў карцінах эміграцыйнага пэрыяду.

Некалькі месяцаў перад сьмерцю, размаўляючы зь Мірановічам, пачуў я ад яго: «Ведаеце, каб добра маляваць пэйзаж, трэба ў ім жыць».

Пахаваны нябожчык на могільніку Рэзурэкшан на Статэн Айленьдзе.

**В. Сельвясюк**